# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №44 (153), 2 ЛІСТАПАДА 1994 ГОДА. КОШТ 50 РУБЛЁЎ




# ШКОЛА БУДУЧАГА... АЛЬБО РЭЗЕРВАЦЫЯ?

Гэтую першую беларускую школу у нашай сталіцы мы "выдзіралі" з цемры нацыянальнага нігілізму і супраціўлення. "Мы" — гэта тыя інтэлігенты, якія неслі трапяткі агеньчык любові да Беларусі праз усе гады знямення, а таксама ўсе, у кім не згасла разуменне, што толькі праз усласную мову зможа наш народ некалі вырвацца на свой уласны шлях. Колькі было "круглых сталоў", лістоў, заяў, артыкулаў-пратэстаў супраць русіфікацыі — дзеля законнага права навучацца на роднай мове!

За гэтыя гады ў школе N 89 год за годам набірала сілу беларускасць, набываўся бясцэнны вопыт нацыянальнай школы, фарміраваўся зладжаны калектыў. А галоўнае — рабілася канкрэтная справа. Вось чаму мы з радасцю адгукнуліся на запрашэнне прыйсці на прэзентацыю 1-га "А" — эксперыментальнага класа ўласнай мадэлі нацыянальнай школы. Сутнасць яе ў тым, што апроч агульных прадметаў школьнікі будуць займацца з майстрамі мастацкай працы — ткацтва, па пляценні саломкі, засвойваць мастацтва вуснага слова, народнай песні, танца. Для гэтых мэтаў у школу прыйшоў часовы навукова-даследчы калектыў, які ўзначальвае кандыдат мастацтвазнаўства, дацэнт Беларускага універсітэта культуры Ілля Сучкоў, які ўжо тры гады працаваў над канцэпцыяй школы ў Сенніцы. Гэта значыць, што дзеці будуць далучаны да сапраўдных народных скарбаў, стануць працаваць са спецыялістамі.

Выдатнік асветы Рэспублікі Беларусь Нэлі Іванаўна Шрамава вядзе фрагмент урока з першакласнікамі. Яна паказвае ім карту Беларусі, дзе намаляваны герб "Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг.

— Што гэта?— задае яна пытанні. Дзеткі адказваюць пра краіну, сталіцу... Звычайныя пытанні — звычайныя адказы? Але чаму ўвесь час напрошваюцца асацыяцыі і неяк шчымліва на душы?

...Гэты сцяг дасюль аплёўваюць на самых розных узроўнях нават і дзяржаўнай улады. Гэты герб ненавісны многім з тых, хто прымаў закон аб яго ўвядзенні, спалохаўшыся, што яго змяце маскоўскі вал пераўтварэнняў грамадства.

Прозвішчы, што стаяць на кнігах выставы, былі доўгія гады забаронены, яны вяртаюцца ў грамадства пакутліва і няпроста.

Хаця — што можа быць прасцей, каб помніліся і шанаваліся людзі, што памерлі ў імя сваёй зямлі ці жывуць дзеля яе?

Што можа быць прасцей, калі дзіця спявае песню на роднай мове і гаворыць на ёй жа забаўныя пацешкі і скорагаворкі? Гэта справа дарослых — адкуль узяць тыя пацешкі, што прынесці на ўрок і з чаго яго падрыхтаваць.

Мы ідзем з Нэлі Іванаўнай у клас, дзе сцены размаляваны пейзажамі, а ля адной — сапраўдны плот з лазы, каля другіх, на стэлажах, вышыванкі, кнігі, цацкі-самаробкі, кветкі. Яна, настаўніца Шрамава, сваімі рукамі стварала прываблівы гэты клас — малявала на сценах фарбамі, што прадаюцца ў гаспадарчай краме,








несла сюды ручнікі, вышытыя мамай і бабуляю, ды і ёю самой, вырошчвала на дачы снапочак лёну, каб паказаць дзецям гэты своеасаблівы сімвал Беларусі.

Пасля паказвае пацешкі і вершы, напісаныя зноў жа ёю самой — іх смела можна ўключаць у любы дзіцячы зборнік. На гэтую таленавітую жанчыну і глядзець прыемна — вясёлая, гаваркая, уся нейкая светлая... І дзяцей любіць самааддана — адчувалася гэта па тым, як з ёю трымаліся "яе" першакласнікі, якіх мамы ў час перапынку частавалі, як і гасцей, дранікамі. З чаго пачыналася яе любоў да ўсяго беларускага?

А сапраўднае нацыянальнае станаўленне пачалося, як ні дзіўна, з сустрэчы:

"У кафэ "Бульбяная", куды я зайшла неяк у студэнцтве, побач селі двое і сталі звяртацца да мяне па-беларуску. Ну, і я пачала адказваць па-беларуску. Паелі мы, а яны пасля кажуць:"Дзякуй, што не забыліся на нашу родную мову, а то мы, прыехаўшы сюды з Амерыкі, думалі, што яна тут ужо зусім загінула".

Я была ўражана гэтым і прыйшла да высновы — не будзе ў нас уласнай годнасці, мы як народ не выжывем..."

Свята прэзентацыі ішло сваёй чарадой — дырэктар школы Вера Пракопаўна давала слова настаўнікам — Таццяне Аніфер, Таццяне Тарасенка; пасля выступалі госці, сярод якіх быў намеснік міністра асветы Пятроўскі і раённае кіраўніцтва. Але ўсё лезлі ў галаву як бы недарэчныя на святце думкі аб тым, што пакуль у сталіцы не надта адчуваецца вынік некаторых выказванняў Прэзідэнта аб нацыянальных падручніках і святах — а вось у раёнах былыя партнаменклатуршчыкі, якія так і сядзяць пры ўладзе і некалі неахвотна здаваліся перад ідэяй беларускасці, зноў пачынаюць ушчамляць беларускіх настаўнікаў і падбухторваць маладых бацькоў не весці дзяцей у беларускія школы... Успомнілася гутарка з настаўніцамі Дзяржынскага раёна — яны з болем гаварылі аб тым, што настаўнік зусім безабаронны перад чыноўнікам, і цяпер, ва ўмовах будучага беспрацоўя, вельмі лёгка і беспакарана выганяецца з працы любы няўгодны настаўнік. А як ён будзе ўгодны наменклатуршчыку, які толькі што, не саромеючыся, як кажуць, ні Бога, ні людзей, агітаваў за Кебіча, клянучы Лукашэнку, а цяпер гатовы лавіць не тое каб слова, але проста намёк улады, каб давесці яго — гэты намёк — там на месцы, да абсурду...

Словам, седзячы ва ўтульным, усцешным сэрцу куточку беларушчыны — школе № 89 нашай сталіцы, дзе маладыя прыгожыя бацькі перажывалі за сваіх дзяцей, якія спявалі і скакалі, шукалі адказы на казку-пытанне і ў беларускіх касцюмчыках, пашытых па народных узорах, адчувалі сябе свабодна і арганічна, з усёй сілай душы мы жадалі, каб астраўкі не загінулі, а, наадварот, пашырыліся і зліліся, нарэшце, у адно. Можа, якраз гэтыя дзеці, нягледзячы на ўсе сённяшнія перашкоды, і стануць тварыць сапраўдную Беларусь?

Нашы кар.

СЯРЭДЗІНА ТЫДНЯ

# СТО ДЗЁН АД ПРЫСЯГІ, А КОЛЬКІ ДА "ДЭМБЕЛЯ"?

ВЕРТЫКАЛЬ

Сто дзён пасля прэзідэнцкай прысягі не сталі святам ні для краіны, ні для "імянінніка" — сп.Лукашэнкі. Сапраўды, што святкаваць? Чарговы падвышак цэнаў і транспартных тарыфаў, далейшае падзенне жыццёвага ўзроўню большасці грамадзян Беларусі? А мо адзначыць святочным феерверкам пачатак "будоўлі стагоддзя" — прэзідэнцкай "вертыкалі"? Кандыдат у Прэзідэнты сп.Лукашэнка абяцаў да канца года запусціць заводы, "аднавіць сувязі", навесці парадак на вуліцах і ва ўладных структурах. Тое ж самае абяцае Аляксандр Рыгоравіч і зараз ужо ў якасці прэзідэнта, толькі асцерагаецца называць канкрэтныя тэрміны. Зрэшты, што датычыць падвышку цэнаў і "замарожанай" зарплаты, — гэта непазбежнае. Хто б з прэтэндэнтаў не заняў прэзідэнцкае крэсла, яму ўсёроўна давялося б дзеля стабілізацыі эканомікі пайсці на непапулярныя ў народзе меры. Але Пазьняк пра гэту непазбежнасць гаварыў адкрыта, а Лукашэнка абяцаў цуд. Між тым, калі гаворка ідзе пра эканоміку, слова "цуд" бярэцца ў двукоссі. "Эканамічны цуд" ніколі не падае з неба, а заўжды вырастае на глебе цвярозага разліку і прафесійнай кампетэнтнасці.

Гэтага прэзідэнту, бадай, і нестае. Усе гэтыя хістанні паміж так званым "старшым братам" і "новым сябрам" — паміж Крамлём і Міжнародным валютным фондам, і жаданне, па-руску кажучы, "и невинность соблюсти, и капитал приобрести" — захаваць "сацыяльную справядлівасць" і адначасова дамагчыся эканамічнай эфектыўнасці, гавораць пра тое, што прэзідэнт не мае акрэсленых мэтаў, не мае ўяўлення аб доўгатэрміновых, стратэгічных інтарэсах нацыі, дзейнічае чыста рэфлексіўна. Паколькі А.Лукашэнку нельга адмовіць у кемлівасці, дык не выключана, што з часам ён дарасце да сваёй пасады, стане прэзідэнтам не толькі па званні, але і па сутнасці. Толькі, думаю, прэзідэнцкі "ликбез" будзе дорага каштаваць нашай краіне, усім нам, не менш, чым каштаваў "ликбез" парламенцкі. Колькі нервовых клетак загубілі тэлегледачы, назіраючы за тым, як дэпутаты ад сахі, станка і партбілета, зацыкленыя на камунізме і школьным падручніку па гісторыі СССР, гулялі ў авальнай зале ў вялікую палітыку! А колькі згублена часу, змарнавана рэальных магчымасцяў выйсці з крызісу "малой крывёю"! Вось ужо сто дзён мы глядзім другую серыю гэтага, здаецца, несканчальнага серыяла абсурду. Толькі што галоўны герой з калектыўнага стаў персаніфікаваным.

У працоўнай біяграфіі сп.Лукашэнкі ёсць такі радок: "1975 — 1977 — інструктар палітаддзела Заходняй пагранічнай акругі". Няйначай адтуль, як толькі прэзідэнт адрывае вочы ад падрыхтаванага ягонымі супрацоўнікамі тэксту і пачынае гаварыць "ад сябе", у ягоным голасе адразу чуюцца пагрозліва-выкрывальніцкія ноты. "МВД", "КГБ" — любімыя абрэвіятуры прэзідэнта. Нават у эканамічнай праграме сп.Лукашэнкі ў графе "выканаўцы" ім адведзена пачэснае месца. Не хацелася б праводзіць сумныя паралелі, але гэта мы ўжо праходзілі. Па гісторыі СССР.

Відаць, не надта верачы ў тое, што ягоная эканамічная праграма будзе здзейснена, прэзідэнт (на ўсялякі выпадак!) стварае сістэму, якая дазволіць яму ўтрымацца ў крэсле пасля таго, як народу надакучыць чакаць пазітыўных змен. Гэта — прэзідэнцкая вертыкаль. Дэпутат Піскароў, якога ніяк не назавеш прыхільнікам патрыятычнай ідэі (носьбітам якой з'яўляецца ў Вярхоўным Савеце апазіцыя БНФ), з гэтай нагоды параўнаў сп.Лукашэнку з героем вядомай п'есы Грыбаедава "Гора ад розуму". Той прапанаваў: "чтобы зло пресечь — собрать бы книги все да сжечь". Пад кнігамі, прызначанымі для спалення, сп.Піскароў меў на ўвазе Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь. Бо "вертыкаль" і Канстытуцыя — несумяшчальныя. Яшчэ раней з аналагічнымі заявамі выступілі прадстаўнікі парламенцкай апазіцыі.

Атрымалася, што прэзідэнт зрабіў тое, што дагэтуль не ўдавалася нікому — здолеў аб'яднаць наменклатурную большасць і апазіцыю. Калі так пойдзе далей, дык мо на глебе непрымання сваёй палітыкі прэзідэнт калі-небудзь аб'яднае беларускую нацыю. Бо, балансуючы на мяжы закону і беззаконня, сп.Лукашэнка відавочна перабольшвае свае акрабатычныя здольнасці і ўласную папулярнасць у гледачоў. Вось я і задаю пытанне: ад прысягі — сто дзён, а колькі да "дэмбеля"?

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# БОН — МІНСК, ГЕРМАНІЯ — БЕЛАРУСЬ

Увесь спектр сучаснага нямецкага мастацтва быў прадстаўлены на адбыўшыхся ў Мінску Днях культуры Бона. Два гады таму гэтыя еўрапейскія сталіцы сталі гарадамі-пабрацімамі. Беларусь ужо летась прадстаўляла ў Боне сваю культурную праграму. Другі бок з акцыяй у адказ не прамарудзіў.

Урачыстае адкрыццё Дзён бонскай культуры прайшло ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі — перад адкрыццём выставы, на якой размясцілася вялікая экспазіцыя прац трыццаці пяці нямецкіх майстроў выяўленчага мастацтва. Апрача таго, жадаючых паказаць сваю творчасць у Беларусі было ўдвая болей, але спецыяльная камісія ў Нямеччыне адабрала толькі сто твораў.

Выстава цікавая тым, што ўвабрала ў сябе самыя розныя стылі і накірункі нямецкіх мастакоў. Яна была задумана як канцэптуальны праект, падмуркам якога стала свабода творчага самавыяўлення. І хаця сучасным заходнім мастацтвам мінчан і не здзівіш, свежых уражанняў тут было дастаткова.

У адрозненне ад масавай увагі да вернісажу, жадаючых паглыбіцца ў сучасную нямецкую паэзію аказалася, на жаль, нашмат меней. Арганізаваная ў канферэнц-зале галерэі сустрэча з пісьменніцай Карынай Хемпель-Зоус прайшла ў даволі камернай атмасферы. А ў Беларускай акадэміі музыкі ў першы з Дзён бонскай культуры выступіў дуэт гітарыстаў — Томаса Афермана і Енса Вагнера.

Прадстаўнікі афіцыйнай дэлегацыі Бона, у лік якіх уваходзілі бургамістры Ота Кранц і Рут Шміт-Німак, выказалі спадзяванне, што ўсталяваныя два гады таму паміж дзвюма еўрапейскімі сталіцамі кантакты будуць развівацца і надалей. У дар Мінску госці паднеслі карціну, а ў якасці падарункаў прывезлі лекі коштам 100 тысяч марак, прыстасаванне для лячэння хваробаў вока, якое перададзена 10-й гарадской лякарні, і камфартабельны аўтобус.

Знаёмства з культурай Бона працягвалася ў залах Белдзяржфілармоніі, у Дзяржаўным маладзёжным тэатры, у Рэспубліканскім Палацы культуры прафсаюзаў. Было і адно выключэнне з чыста сталічнай праграмы. Аркестр Бонскага універсітэта "Калегіум музікум" выступіў у музычнай вучэльні горада Маладзечна.

Культурнае супрацоўніцтва прадоўжыцца ўжо ў бліжэйшыя дні. У Боне адкрыецца выстава твораў чатырох мінскіх мастакоў. А на наступны год там запланавана больш шырокая беларуская праграма. Ёсць дамова на правядзенне ў Мінску сумеснага пленэру.

**В.К.**

# ТРЫ ТЫСЯЧАГОДДЗІ ІЕРУСАЛІМА

***Пасольства Ізраіля ў Беларусі запрашае прыняць удзел у 3-м Міжнародным конкурсе дзіцячых малюнкаў "Дзеці свету малююць Іерусалім", прысвечаным святкаванню 3000-годдзя гэтага славутага горада.***

*Конкурс будзе складацца з 3-х тураў:*

**1-ы ТУР КОНКУРСУ. 01.05.1995 г. — 05.05.1995 г.**

*Праводзіцца на месцах (сярод навучэнцаў школ, выхаванцаў мастацкіх школ, студый, ліцэяў, палацаў піянераў і школьнікаў, цэнтраў эстэтычнага выхавання).*

*Працы пераможцаў гэтага тура павінны быць прадастаўлены ў Пасольства Ізраіля ў Рэспубліцы Беларусь да 20 мая 1995 года. Кампетэнтнае журы адбярэ лепшыя працы для наступнага тура.*

**2-і ТУР КОНКУРСУ. 25.05.1995 г.**

*Пераможцы 1-га тура конкурсу будуць браць удзел ва Усебеларускім конкурсе малюнкаў, які адбудзецца ў Мінску, у Беларускім Таварыстве дружбы і культурных сувязей з замежнымі краінамі з 1 па 15 чэрвеня 1995 года.*

*Завершыцца конкурс у Ізраілі Міжнароднай выставай дзіцячых малюнкаў, якая фактычна і будзе 3-м турам.*

**УЗНАГАРОДЫ І ПРЫЗЫ:**

***1.*** *Пераможцы конкурсу ў Ізраілі атрымаюць 12 прызоў: бясплатная паездка ў Ізраіль на 7 дзён (дзіця ў суправаджэнні аднаго дарослага), а таксама юбілейныя сярэбраныя манеты.*

***2.*** *За калектыўную працу прыз атрымае ўвесь калектыў.*

***3.*** *Усе юныя аўтары, працы якіх трапяць на фінальную выставу, атрымаюць дыпломы і альбомы з выявамі Іерусаліма.*

*Канчатковае рашэнне, згодна з парадкам правядзення конкурсу, адбору прац, узнагарод і рэгламенту, прымаецца Пасольствам Ізраіля ў Рэспубліцы Беларусь.*

**АЎТАРСКІЯ ПРАВЫ:**

*Усе работы, якія будуць удастоены прыза або трапяць на фінальную выставу, робяцца ўласнасцю Камітэта конкурсу, які мае права распараджацца імі па сваім меркаванні.*

**РАБОТЫ, ЯКІЯ БУДУЦЬ ПРЫСЛАНЫ НА КОНКУРС, НЕ ВЯРТАЮЦЦА**

**Адрас пасольства:**
**Мінск, гатэль "Беларусь",**
**вул.Старажоўская, 15, № 804**
**Тэл. 69-08-04, 69-08-05**
**Факс (0172) 76-94-09**

# ШУКАЛЬНІКІ ПРЫГАЖОСЦІ І МОЦЫ

Паспяховай была вандроўка па Еўропе беларускай культурна-асветніцкай экспедыцыі "Залатая карэта". Яе ўдзельнікі наведалі Польшчу, Нямеччыну, Францыю, Бельгію і Галандыю. Паўсюль пасланцаў маладой творчай інтэлігенцыі Беларусі сустракалі ветліва і з вялікай цікаўнасцю, з інтарэсам знаёміліся з беларускімі вершамі, песнямі і танцамі. У сваю чаргу, нашы падарожнікі адкрывалі для сябе культуру і гісторыю тых краін, дзе пабывалі, набылі шмат добрых сяброў. Сустрэчы былі цёплыя і запамінальныя.

Зараз "Залатая карэта" выйшла на дарогі Беларусі. Засталіся там, на Захадзе, прыгожыя і ўтульныя гарады, велічныя Луўр і Нотр-Дам, залітыя яркім святлом па вечарах Елісейскія Палі, вуліцы запоўненыя ветлівымі людзьмі, крамамі, дзе паўнютка ўсялякага тавару, кавярнямі і рэстарацыямі, дыскатэкамі, вялікімі і малымі тэатрамі, карцiннымі галерэямі... У нас пакуль увечары на вуліцах цёмна, зразумела, энергетычны крызіс. Адпачываць у кавярнях ды дыскатэках не па кішэні сярэднеаплочваемаму чалавеку. У нас больш "папулярна" бавіць час на лавачках у дварах, а не ў барах, папіваючы піва і іншыя напоі, набытыя ў бліжэйшых крамах. Большасць насельніцтва вымушана сядзець каля тэлевізараў, бо хадзіць па цемры і холадзе непрыемна, ды і небяспечна, пераключаючы каналы з дзвюх беларускіх на тры расейскія і назіраючы прыблізна адно і тое ж... На Захадзе сядзець дома ўвечары — благі тон. У нас жа гэтае — амаль адзінае, што можна сабе дазволіць... Зразумела, эканамічны крызіс...

Але знаходзяцца людзі, якім неабыякавае ўсё, цікаўныя і актыўныя. Яны імкнуцца данесці агеньчык дабрыні і цяпла да ўсіх, унесці ў нашае жыццё прыгажосць і святло, надзею і ўпэўненасць. Арганізатары "Залатой карэты" ставяць за мэту аб'ехаць старажытныя гарады Беларусі і адшукаць сярод дзяўчат — князёўну-прыгажуню, а сярод прадстаўнікоў моцнай паловы — мецэната культуры, правесці конкурс і потым прадставіць лепшых на заключным туры, што пройдзе па тэлебачанні. Каранаванне пераможцаў адбудзецца ў Навагоднюю ноч.

Па задуме ініцыятараў дзеі, гэта павінен быць еўрапейскі тэлевізійны фестываль "Залатая карэта". Ягонымі гасцямі стануць вядомыя паэты, гісторыкі, выканаўцы з Польшчы, Германіі, Бельгіі, Галандыі, Францыі, Італіі, Швейцарыі, ЗША, прыедуць прадстаўнікі беларускай дыяспары, з гэтых краін.

Фестываль распачнецца падарожжам па Беларусі. Ён пройдзе ў тры туры. У першым адбудуцца паездкі ў старажытныя гарады, у другім — у мястэчкі і вёскі, у трэцім — у абласныя цэнтры. Спачатку шлях ляжыць у Полацк, потым будуць Тураў, Наваградак, Мір, Нясвіж, Крычаў і іншыя. Місія "Залатой карэты" — сустрэцца са спонсарамі, людзьмі, што ўкладваюць значныя сродкі ў развіццё нацыянальнай культуры, тым самым дапамагаючы дзяржаве мацаваць шматвяковыя культурныя здабыткі нашага народа. Беларусь павінна ведаць іх імёны і ганарыцца імі.

"Залатая карэта" таксама мусіць адшукаць дзяўчыну, якая спалучае ў сабе ўсе лепшыя рысы і адметнасці беларускі.

Трохі падрабязней пра конкурс на званне "Князёўна Беларусі". Ён будзе праводзіцца ў тры туры. Першы — сярод студэнтак вышэйшых навучальных устаноў, навучэнак сярэдніх спецыяльных і прафесійна-тэхнічных вучэльняў. Крытэрыі адбору — 17 — 25 гадоў, веданне гісторыі сваёй краіны і традыцый мясцін, адкуль паходзяць, валоданне, вядома, беларускай мовай, а таксама, пажадана, якой-небудзь заходнееўрапейскай, наяўнасць музычных і харэаграфічных здольнасцяў. Другі тур праводзіцца на гарадскім (мясцовым) узроўні. Пераможца атрымлівае званне князёўны сваёй мясцовасці — "Полацкая князёўна", "Заслаўская князёўна" і гэтак далей. Пераможцы другога этапу бяруць удзел у заключным конкурсе, на якім вызначаецца "Князёўна Беларусі", а таксама Панны: "Панна Пяшчотнасць", "Панна Прыгажосць", "Панна Надзея", "Панна Загадкавасць".

У рамках турнэ-конкурсаў па гарадах адбудуцца відовішчныя праграмы-прагляды прэтэндэнтаў і прэтэндэнтак, канцэрты з удзелам папулярных спевакоў, паэтаў. Напрыклад, у Полацку, з якога распачнецца падарожжа, адбудзецца канцэрт-сустрэча з членамі журы конкурсу — вядомымі дзеячамі культуры нашай дзяржавы.

"Князёўну" і "Мецэната" вырашана шукаць так, як падказваюць народныя казкі. Таму тры туры названыя: медзяным, срэбраным і залатым.

Кожны горад, мястэчка вызначае сваіх князёўну і мецэната. Кожнае месца прызначае свае прызы і ўзнагароды для пераможцаў фіналу конкурсу.

Зацверджаны галоўныя прызы і ўзнагароды конкурсу прыгажосці. Імі з'яўляюцца: пераходная "залатая" карона; аўтамабіль ("Сітраен" або "Пежо"); тыднёвы адпачынак на Канарскіх астравах, у Лондане, Парыжы... Будзе прыз і для мецэнатаў.

Як ужо казалася, каранацыя Князёўны і Мецэната Беларусі адбудзецца ў Навагоднюю ноч. Дзе менавіта? Тут ужо трэба ўважліва сачыць за маршрутам "Залатой карэты". У гонар пераможцаў — Князёўны і Мецэната — будзе абвешчаны рыцарскі турнір, удзельнічаць у якім запрошаны рыцары з Францыі, Германіі, Бельгіі, Італіі.

На заканчэнне нагадаем адрас для заявак:

220119, Мінск, п/с 196; тэл. 65-81-02.

**Марыя ПЯТРОВІЧ**

# БАГАЦЦЕ КУЛЬТУРЫ, ВЕЛІЧ ПРЫРОДЫ



У Дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны адбываецца выстава кітайскіх фотамайстроў, прысвечаная 45-м угодкам утварэння Кітайскай Народнай Рэспублікі. На ўрачыстым адкрыцці прысутнічалі пасол КНР Ван Сіньда, саветнік віцэпрэзідэнта Беларусі Генадзь Бураўкін, іншыя афіцыйныя асобы і, канешне, беларускія ветэраны Другой сусветнай вайны, удзельнікі вызвалення Кітая ад японскіх захопнікаў. Выстава складаецца больш чым са 100 твораў, якія адлюстроўваюць багацце культуры і веліч прыроды магутнай усходняй краіны.

*На здымку:* сёлетні фестываль культуры і турызму на востраве Маузу.

СІТУАЦЫЯ

# БЫЦЬ АЛЬБО НЕ БЫЦЬ НОВАМУ ДЗІЦЯЧАМУ ТЭАТРУ?

***У Мінску з 24 па 29 кастрычніка адбылася міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Псіхалагічная рэабілітацыя дзяцей сродкамі тэатральнага мастацтва" і трыенале "Тэатр — дзецям". Арганізатары канферэнцыі Міністэрства культуры і друку, Міністэрства адукацыі і навукі, Беларускі дзіцячы фонд, Мінгарвыканкам, СТД Беларусі, Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача выявілі, што дзіцячы тэатр павінен стаць аб'ектам пільнай увагі псіхолагаў і педагогаў з мэтай выпрацоўкі тэорыі і практыкі функцыянавання і развіцця прафесійнага тэатра для дзяцей у сучасных умовах.***

***Эфектыўнасць любога мастацтва тым вышэйшая, чым больш яно мае магчымасцяў для ўздзеяння на эмацыянальную сферу асобы і яе інтэлект. Вельмі моцным транслятарам генеруемых тэатрам сацыяльна-псіхалагічных уздзеянняў з'яўляюцца сучасныя гуманістычныя псіхалогія і педагогіка, якімі належыць карыстацца максімальна эфектыўна. Зразумела што значная частка поспеху альбо не поспеху спектакля ў юнага гледача залежыць не толькі ад мастацкіх вартасцяў але і ад ведання і ўліку спецыфічных псіхалагічных асаблівасцяў дзіцячай аўдыторыі.***

***Падчас працы канферэнцыі на розных сцэнічных пляцоўках горада з поспехам прайшлі спектаклі тэатраў — удзельнікаў трыенале: трупы "Шнавль" Нацыянальнага тэатра, г.Мангейм, ФРГ, Расійскага акадэмічнага тэатра моладзі, г.Масква, Расійская Федэрацыя, Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача. З гэтай нагоды наш карэспандэнт сустрэўся з дырэктарам ТЮГа сп. Ігарам Андрэевым і мастацкім кіраўніком тэатра сп. Мадэстам Абрамавым.***



**— Ігар Сяргеевіч, тэма канферэнцыі "Рэабілітацыя дзяцей сродкамі тэатральнага мастацтва" — гэта што? Спецыяльныя навуковыя распрацоўкі для хворых ці анамальных дзяцей? І чаму менавіта ТЮГ — класічны дзіцячы тэатр стаў базай гэтай канферэнцыі, а не спецыяльныя школы з мастацкім ухілам.**

— Тут размова ідзе аб духоўнай рэабілітацыі нармальнага дзіцяці. Бо на сёння, калі тэлебачанне стала амаль што камерцыйным, кнігі дарагія, — толькі тэатр застаўся нейкім цудоўным даступным духоўным востравам для дзяцей і іх бацькоў. Мы павінны ведаць перш за ўсе нашага гледача і, калі хочаце, выхоўваць. Я неяк назіраў за сваімі гледачамі перад спектаклем "Стваральніца цуду" — гэта быў звычайны натоўп падлеткаў у гардэробе, дзе можна было крычаць, надзімаць вялікія шары з гумкі... Дзеці не хацелі ўспрымаць храма мастацтва і паводзіць сябе там адпаведна. Але што ж адбылося пасля спектакля?! Кожны выходзіў Асобай, якая можа пакутаваць і радавацца разам з героямі п'есы. Нават позірк юных гледачоў змяніўся, не толькі іх паводзіны.

Я адчуваю вашу іронію наконт слова "рэабілітацыя". Але пагадзіцеся, што мы — іх бацькі — самі ствараем ім "дзяцінства шчаслівае". Пры дапамозе сучасных мастацкіх сродкаў: тэлевізійных ідэалаў кшталту герояў МММ, ці жорсткіх амерыканізаваных мультыплікацыйных герояў. Заўважце, цяперашнія падлеткі не ведаюць Папялушку з непараўнальнай Янінай Жэймо. А навошта? Калі дома "па відзіку" можна паглядзець "Рабакопа". Вось таму мы і намагаемся зразумець псіхалогію сучаснага Дзіцяці, чым яно жыве і як яго можна зацікавіць класічнымі героямі дзіцячай літаратуры і драматургіі. Зразумела, што поспех спектакля не залежыць ад навуковага рэферата на тэму — своечасова ці не ставіць сёння Шэкспіра. Поспех складаецца і з майстэрства акцёраў, і цікавага рэжысёрскага вырашэння, і з працы мастака.

**— Дазвольце прыгадаць Вам, былому акцёру, час, калі на спектаклі ТЮГа ездзілі тэатралы з Масквы. Так было са спектаклем Шэйніна па п'есе Валодзіна "З каханымі не расставайцеся". Але ж ніхто з яго стваральнікаў не збіраў навуковых канферэнцый...**

— Усё гэта так, трэба сказаць, што і сёння нашаму тэатру няма чаго скардзіцца на гледача. Па-першае, гэта адзіны ў Рэспубліцы дзіцячы тэатр. Вось толькі што мы вярнуліся з гастроляў з Горадні. Тэатр намагаецца як мага больш ездзіць па рэспубліцы, і каб нашыя спектаклі маглі паглядзець дзеці ў розных гарадах і сёлах. Супрацоўнікі нашы шчыра рыхтуюцца, здавалася б, да простага выезду на перыферыю: складаныя дэкарацыі і рабочыя сцэны едуць разам з акцёрамі. Відаць, так наканавана службе ў тэатры. Па-другое, што тычыцца гэтай канферэнцыі, то я лічу, што менавіта нам яна была неабходнай. Бо ўжо тры гады як у ТЮГу існуе педагагічна-метадычная служба, якая распрацоўвае анкеты і метадычкі, ды ўвогуле працуе ў розных школах горада Мінска. Нашы спецыялісты рыхтуюць свайго гледача з першага класа на семінарскіх тэматычных занятках. У тэатры ўжо ідуць спектаклі, на ангельскай і нямецкай мовах спецыяльна для дзяцей, якія вучацца ў лінгвістычных ліцэях. Пасля спектакляў адразу ж адбываецца міні-прэс-клуб са стваральнікамі спектакля, а старэйшыя класы пішуць рэцэнзіі.

Трэба адзначыць, што наш цяперашні глядач адрозніваецца ад гледача трохгадовай даўнасці. Мы выхоўваем адзін аднаго і рыхтуемся да сустрэч, і гэта ўжо больш чым прыемна. Такое разуменне стала неабходным, а каб не вынаходзіць ровар, мы больш чым хто зацікаўлены ў гэтай канферэнцыі, дзе можна паслухаць навуковыя распрацоўкі па псіхалогіі і зрабіць для сябе выснову.





**— Мадэст Мадэставіч, Вашым настаўнікам і не мроілася такога, каб стварыць дзіцячы спектакль, склікаць кансіліум псіхолагаў, настаўнікаў... Можа, усё ж такі, адчуваецца настальгія па былых часах, калі ў рамках тэатральных фестываляў была магчымасць і сябе паказаць, і на людзей паглядзець...**

— А... Куды Вы павярнулі... Так. І настальгія па фестывалях таксама ёсць. Аднак ёсць адно "але". Калі тры гады таму я працаваў у горадзе Мангейме, то ўпершыню сутыкнуўся з простай ісцінай: праблемы дзяцей і падлеткаў розных краін — аднолькавыя. Я маю на ўвазе і псіхалагічныя, і матэрыяльныя, і духоўныя, і бытавыя. І яны, праблемы, таксама клапоцяць рэжысёраў дзіцячых тэатраў Нямеччыны, Польшчы, Расіі...

Да прыкладу, хачу сказаць, калі выступаў на цяперашняй канферэнцыі дырэктар Народнага тэатра з Кракава спадар Ежы Федаровіч, то ён паказаў відэакасету са спектаклем "Рамэа і Джульета". Такі добры, цёплы спектакль... Але Федаровіч дадаў, што ў спектаклі былі заняты не прафесійныя акцёры, а хлапчукі і дзяўчынкі з вуліцы. Справа ў тым, што некаторы час у двары яго тэатра збіраліся розныя групоўкі моладзі: панкі, рокеры, нават не ведаю, хто яшчэ, і штовечар вялі "разборкі". І вось, у адзін такі вечар, ён запрасіў падлеткаў да сябе ў тэатр і прапанаваў ім паставіць спектакль. Усё, канец вайне. Некалькі месяцаў плённай працы і вялікі поспех спектакля сярод моладзі Кракава. Зразумела, гэта не панацэя ад усіх жорсткасцяў у нашым грамадстве, і рэжысёр у дадзеным выпадку — не Макаранка. Але ж я буду надта задаволены, калі пасля майго спектакля ў горадзе хоць на адзін гвалт ці забойства будзе меней.

Вы кажаце — настальгія... А чаму і не? Такіх дзіцячых тэатраў у свеце не шмат. Усе яны будуюцца па класічных канонах Тэатра. Але трэба шукаць новыя формы, бо дзіцячы тэатр спецыфічны — ён заўсёды — свята, пакуль ты знаходзішся ў краіне Дзяцінства, а далей жыццё, дзе "людзі — акцёры"...

Калі нашай моладзі цікава тэатральнае мастацтва іншых краін, то я спадзяюся, што ў наступным годзе мы будзем цікавымі для нямецкай аўдыторыі. А гэта таксама допінг для акцёра. Ёсць такая неабходнасць у творчага чалавека — быць патрэбным. Няхай яго Служба Тэатру сёння не дае вялікіх матэрыяльных даброт, але яму патрэбна адчуванне значнасці. Нельга закрыць чацвёртую сцяну, якім бы геніяльным спектакль ні быў. У першую чаргу гледача.

Вось і гэтая канферэнцыя дасць падставу для стварэння міжнароднай лабараторыі на базе нашага тэатра дзеля вырашэння такіх надзённых для дзіцячага тэатра праблем, як: псіхалагічная і ўзроставая заканамернасці ўспрыняцця тэатральнага мастацтва юнымі гледачамі; псіхалагічныя асаблівасці ўздзеяння ў сістэме Акцёр — Роля — Глядач, праблемы стварэння і функцыянавання мастацка-выхаваўчай сістэмы Тэатр — Школа — Сям'я і інш.

**— Поспехаў Вам!**

**Размову вяла**
**Жанна ВАСАНСКАЯ**



*На здымках:* Ігар Андрэеў, дырэктар ТЮГа; Мадэст Абрамаў, мастацкі кіраўнік ТЮГа; сцэны са спектакля Расійскага акадэмічнага тэатра моладзі, удзельніка трыенале.

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

# ШУКАЮЧЫ СУПРАЦОЎНІЦТВА

Другі раз Міністэрства абароны і Міністэрства культуры і друку праводзяць нараду па выпрацоўцы агульнай праграмы па духоўна-маральным выхаванні вайсковай моладзі. Пытанне няпростае, у часы, калі, па словах міністра абароны А.Кастэнкі, няма самой канцэпцыі бяспекі Рэспублікі Беларусь. Традыцыйна армія ўспрымалася інтэлігенцыяй як монстр, які служыць таталітарнай сістэме, але нацыянальная армія (калі яна ўрэшце стане такой), несумненна, запатрабуе клопату і ўвагі. І пра гэта ішла гаворка на нарадзе.

Раскаванае, новае бачанне дачыненняў арміі і інтэлігенцыі і традыцыйны падыход да гэтай складанай тэмы раз-пораз сутыкаліся ў шыкоўнай, з мармуровымі калонамі зале Дома афіцэраў."Не думаю, што прыезды пісьменнікаў і артыстаў нешта зменяць. Але мы гатовы шукаць спонсараў, якія аплоцяць спектакль для салдат — пры ўмове, што гэтыя маладыя хлопцы прыкладуць рукі ў нашым тэатры, дзе рабочых катастрафічна не хапае", — палемічна заявіла дырэктар Маладзёжнага тэатра Віргінія Тарнаўскайтэ, затое начальнік Гродзенскага Дома афіцэраў Алег Латышаў з настальгіяй успамінаў мінулае:"Раней было проста; калектыву казалі:"Не дасі два шэфскія канцэрты — не паедзеш за мяжу." А цяпер — маразм". І працягваў разносіць "гнілую інтэлігенцыю":"Трэба, канешне, чытаць Дастаеўскага і Чэхава, але ваенна-патрыятычная тэматыка важней". Пісьменнік Анатоль Сульянаў, які шмат ездзіць да маладых салдат, асабліва адзначаў двух кампазітараў, якія добра працуюць як шэфы: Ігара Лучанка і Эдуарда Ханка. Аляксей Дудараў ("Радавых" якога некалі моцна бэсцілі вайсковыя ідэолагі) усё ж выказаў гатоўнасць заўсёды прыехаць у любы час да "хлопцаў у ваеннай беларускай форме", якія ў ёй здаюцца яму нібыта вышэйшымі і мацнейшымі, чым гэта было раней.

Насцярожана адносячыся да ўсялякіх нарадаў, якіх нямала было і ў ранейшыя часы, мушу ўсё ж адзначыць канструктыўнасць гаворкі, што адбылася на нарадзе, дзе прысутнічалі абодва міністры і дзе інтэлігенцыя (якая, між іншым, таксама раздзеленая палітычнай сітуацыяй) і армія (якая з цяжкасцю, але ідзе на рэформы) шукалі агульных шляхоў для супрацоўніцтва.

**Наш кар.**

ДА 200-х УГОДКАЎ ВЫЗВОЛЬНАГА ПАЎСТАННЯ 1794 г.

# "... НЕ НАШАЙ НАША БАЦЬКАЎШЧЫНА СТАЛА"

Трагічным для народаў Рэчы Паспалітай — Каралеўства Польскага і Вялікага княства Літоўскага — быў 1794 год. Па імператарскім хаценні Расіі, Прусіі і Аўстрыі, па сутнасці палітычных разбойніц той пары, з мапы Еўропы няўмольна знікала цэлая дзяржава. І гэта здарылася тады, калі тут усталёўваўся Асветніцкі рух, які быў накіраваны супраць прыгонніцтва, дадатна ўплываў на развіццё навукі, грамадскай і дзяржаўнай дзейнасці ў Рэчы Паспалітай, дзе ўпершыню ў Еўропе была прынята дэмакратычная Канстытуцыя, праводзіліся прагрэсіўныя рэформы, ішоў наступ на неадукаванасць і ўслаўляўся здаровы патрыятызм.

Вызвольнае паўстанне патрыётаў супраць акупацыйных войскаў, якое доўжылася на працягу двухсот дзён, закончылася паражэннем.



Рэвалюцыйная Францыя не змагла дапамагчы, а больш не было каму. Шмат было складзена чалавечых жыццяў на алтар волі, шмат было горычы і слёз, шмат трапіла ў палон і на катаргу. А колькі апынулася на эміграцыі? Не ўсцераглі іх і словы народнай малітвы:

*Божа, паратуй Літву*
*ад напасці,*
*Край наш каханы і дарагі.*
*Памажы захаваць наша*
*шчасце —*
*Вольнасць нашу,*
*а чужынцаў спыні:*
*Тых, хто йдзе, каб нас*
*заняволіць,*
*Схіліць зрачыся традыцый*
*і звычаяў свойскіх,*
*Памажы і ім свой крок*
*запаволіць,*
*Учынкі ўзважыць і да хаты*
*вярнуцца прыстойна.*

*(З гісторыка-краязнаўчых запісаў настаўніка Цырынскай школы Аляксандра Гурыновіча)*

Трэці гвалтоўны падзел Рэчы Паспалітай, які адбыўся ў 1795 годзе, разам з двума папярэднімі (1772, 1793) замацаваў "Саюз трох рэакцыйных манархіяў на ўвесь працяглы час, стаўшы апорай еўрапейскай рэакцыі".

Па апошнім падзеле Рэчы Паспалітай на "Забраных землях" грамадскае і культурнае жыццё быццам замерла. Па сведчанні летапісца: "Адны загінулі, другія трапілі ў няволю або апынуліся на выгнанні, як эмігранты". Такі сумны малюнак пасля падаўлення паўстання ўзнік на землях былога Вялікага княства Літоўскага. На эміграцыі апынулася значная колькасць патрыётаў, асабліва моладзі. Пра гэта яскрава нагадвалі "апусцелыя двары", што ператварыліся ў "апусцелыя гнёзды", калі з іх "вылятае маладняк". Міжвольна ўзнікае пытанне: куды ж ён падаўся? Якія землі сталі прытулкам патрыётаў — гэтай першай хвалі масавай эміграцыі? Аказваецца, спачуванне і чалавечнасць да нашых выгнанцаў перадусім праявіла грамадскасць Саксоніі, Францыі і Венецыі. Адсюль яны знаходзілі дарогу і да іншых свабодалюбівых народаў, найперш у Злучаныя Штаты Паўночнай Амерыкі, дзе яркай зоркай свяцілася слава Тадэвуша Касцюшкі, змагара за вольнасць і правы чалавека.

З уступленнем на царскі трон у Расійскай імперыі Аляксандра І (1801 — 1825) у дзяржаве пачалі праводзіцца некаторыя радыкальныя змены, каб зацікавіць эмігрантаў да вяртання на радзіму. Ім абяцалі вярнуць канфіскаваныя двары (маёнткі). У краі ажывілася грамадска-культурнае жыццё. У гарадах і мястэчках ладзіліся розныя забавы, свецкія і рэлігійныя ўрачыстасці, школьныя вечарыны — гэта спрыяла абуджэнню народнай свядомасці і патрыятызму. Адчуваўся ўплыў паўстанцаў, асабліва тых, хто вярнуўся з-за граніцы.

Атрымаўшы добрую загартоўку ў мінулым змаганні, кожны з іх быў увасабленнем мужнасці, даваў прыклад суродзічам да актыўнасці ў грамадскай працы. На гэтай ніве вылучалася іх роля як дамінуючай сілы ў папулярызацыі рэфармісцкіх ідэй заходніх краін, асабліва Францыі і Злучаных Штатаў Амерыкі.

Неўзабаве надышоў 1812 год. На пачатку чэрвеня распаўсюдзілася вестка, што рознамоўныя напалеонаўскія злучэнні перайшлі раку Нёман. І пачалася ўсеагульная эвакуацыя расійскіх упраўленчых уладаў, а ўслед за імі дарогі захліснула агромністая хваля царскага войска, што часам прыводзіла да сутычак і боек з новымі збройнымі сіламі.

Аднаўленне 1 ліпеня 1812 г. са згоды Напалеона Вялікага княства Літоўскага і ўтварэнне Часовага Урада на чале з графам Станіславам Солтанам усяляла спадзяванне і аптымізм у дзейнасць тых, хто вярнуўся з эміграцыі, а таксама ў мясцовых патрыётаў — што хоць і ва ўмовах вайны, але яны пачнуць адбудоўваць сваю дзяржаву.

Камісія Часовага Урада ВКЛ занялася аднаўленнем уласных узброеных сіл. Ёю задумвалася стварыць 100-тысячнае войска. Аднак паспелі сфарміраваць 5 палкоў пяхоты і 4 уланскія, лёгка-конны полк на чале з генералам Янам Канопкам, да якога быў далучаны эскадрон беларускіх татараў пад началам афіцэра Мустафы Ахматавіча. Корпус кароннага войска князя Юзафа Панятоўскага папоўніўся літоўска-беларускай артылерыйскай брыгадай. Апрача таго, у Наваградскім ваяводстве князем Дамінікам Радзівілам быў сфарміраваны нясвіжскі Асобны полк уланаў у тры тысячы шабляў. Такім чынам, на баку Напалеона было выстаўлена звыш 24-х тысяч жаўнераў — прыхільнікаў яго з Вялікага княства Літоўскага. Названыя вайсковыя злучэнні, далучыўшыся да напалеонаўскай арміі, бралі ўдзел у многіх сутычках і бітвах з расійскім войскам, у складзе якога пасля 1772 г. знаходзілася больш як 100 тысяч беларускіх рэкрутаў — ураджэнцаў Полаччыны, Віцебшчыны і Магілёўшчыны. Атрымалася так, што ліцвіны-беларусы, апранутыя ў мундзіры расійскай арміі, і тыя, што былі на баку Напалеона, вымушаны былі ў вайне 1812 г. праліваць братнюю кроў. Ураджэнцы Віленшчыны, Наваградчыны, Палесся і іншых акруг, зведаўшы на палях ваенных бітваў удачы і паражэнні і застаўшыся жывымі, трапілі ў палон пераможных армій, іншыя ж падзялілі горкі лёс выгнанцаў...

Адступленне напалеонаўскай арміі з уладанняў Расійскай імперыі прывяло да ліквідацыі ў снежні 1812 г. Вялікага княства Літоўскага і пачатку новых праследаў яго патрыётаў. Надышла пара арыштаў і высылак у Сібір. А гэта спарадзіла другую хвалю масавай эміграцыі з беларускіх земляў у заходнія краіны. Сярод яе апынулася нямала тых, хто займаў высокія пасады ў Вялікім княстве Літоўскім, і найперш — старшыня Часовага Урада граф Станіслаў Солтан, кіраўнік аддзела юстыцыі Францішак Ельскі, Генеральны сакратар Часовага Урада Язэп Ігнат Касакоўскі і шэраг іншых высокапастаўленых асоб. Многія патрыёты — вайскоўцы з "Забранага краю" ўдзельнічалі ў славутай бітве народаў пад Лейпцыгам (1813, 16 — 19 кастрычніка).

Існаванне ў заходнееўрапейскіх краінах значнай колькасці краёвай эміграцыі стымулявала на радзіме вызваленча-патрыятычны рух. Гэта яскрава праявілася сярод студэнцкай моладзі, асабліва ў Віленскім універсітэце, які пасля напалеонаўскага паходу на Расію стаў найбуйнейшым цэнтрам навукі і культуры на літоўска-беларускіх землях. Тут у 1817 г. стварылася тайнае Таварыства філаматаў (сяброў навукі), якое першапачаткова сваю мэту бачыла ў аказанні дапамогі ў набыцці адукацыі і маральнага ўдасканальвання. Пазней згодна з новым статутам задачы таварыства пашырыліся (усебаковае вывучэнне роднага краю, яго гісторыі, культурна-асветная праца сярод насельніцтва, арганізацыя моладзі ў патрыятычныя згуртаванні).

Дзейнасць студэнцкай моладзі



выклікала падазронасць у царскіх уладаў. Таму ў 1823 г. супраць сяброў Таварыства філаматаў было пачата следства. Праз некаторы час выявілася, што існуюць яшчэ Таварыства філарэтаў (сябры дабрачыннасці) і "Прамяністыя", якія ўтварыліся з папярэдняй арганізацыі і ставілі перад сабою задачы выхавання моладзі ў духу дабрыні і справядлівасці, адданага служэння свайму краю і народу.

Восенню таго ж года члены Таварыства філаматаў аказаліся за турэмнымі кратамі. Судовы працэс закончыўся вынясеннем дваццаці ўдзельнікам арганізацыі прысуду аб высылцы іх увосень 1824 г. у глыбіню Расійскай імперыі. Сярод выгнаннікаў апынуліся вядомы паэт Адам Міцкевіч і яго блізкі сябра Ян Чачот. А.Міцкевічу не без дапамогі расійскіх літаратараў у 1829 годзе ўдалося спешна пакінуць царскую імперыю і выехаць у Заходнюю Еўропу. Яму, сыну Мікалая Міцкевіча, паўстанца 1794 г., прыйшлося стаць на чужыне летапісцам лёсу эмігрантаў з "Забранага краю", іх духоўным правадыром, выразнікам думак і спадзяванняў. У "Забраным краі" і ў Польшчы выспявалі новыя падзеі.

1831 год быў недалёка...

**Леў МІРАЧЫЦКІ**

*На рэпрадукцыях:* Стахван Грабоўскі і Якуб Ясінскі.

# ВОСЕНЬ. ПАРАЗЫ. ПАДЗЕЛЫ

... Для задушэння паўстання ў бой былі кінуты свежыя расійскія сілы. На Беларусь з Украіны прыбыў корпус генерал-аншэфа графа Суворава-Рымнікскага (12 тысяч чалавек, 39 гарматаў). Аляксандр Сувораў добра ведаў гэты тэатр дзеянняў, бо яшчэ ў 1769 — 1772 гг. ваяваў на тэрыторыі Рэчы Паспалітай супраць барскіх канфедэратаў і атрымаў тут званне генерал-маёра. Корпус Суворава накіраваўся на Палессе — там знаходзіліся аб'яднаныя сілы польскага і беларуска-літоўскага войска (у якім былі і касінеры). 14 верасня адбылася сутычка паўстанцаў з авангардам корпуса Суворава пад мястэчкам Дзівін (цяпер Кобрынскі раён). На наступны дзень разгарэўся бой кобрынскай павятовай міліцыі Вялікага княства Літоўскага пад кіраўніцтвам генерал-маёра К.Рушчыца з суворыўскімі аддзеламі ў Кобрыне. 17 верасня адбылася найбуйнейшая бітва паўстанцкага корпуса К.Серакоўскага (каля 5 тысяч чалавек і 26 гарматаў) пад Крупчыцамі (Кобрынскі раён) з больш чым удвая пераважаючым корпусам Суворава. К.Серакоўскі вымушаны быў адступіць. 19 верасня ў вырашальнай бітве пад Берасцем, каля Тэрэспаля, войска Суворава нанесла ўдар па корпусу К.Серакоўскага. Нягледзячы на падтрымку невялікага аддзела генерал-маёра К.Князевіча, корпус К.Серакоўскага быў разбіты.

Т.Касцюшка яшчэ намагаўся арганізаваць адпор войску А.Суворава і іншым расійскім фармаванням. У яго быў план сканцэнтраваць на Падляшшы літоўскія дывізіі і рэшткі корпуса К.Серакоўскага, правесці новую мабілізацыю шляхты і мяшчан. Дзеля гэтага 29 верасня галоўны кіраўнік паўстання спяшаецца ў Горадню. Тут, у каралеўскім замку, 30 верасня ён правёў нараду вышэйшых камандзіраў. У ёй удзельнічалі Якуб Ясінскі, Тамаш Ваўжэцкі, Стахван Грабоўскі, Станіслаў Макраноўскі. Касцюшка раздаў узнагароды, зрабіў суровую ацэнку дзеянням камандавання і рэарганізаваў яго. 2 кастрычніка Т.Касцюшка вярнуўся ў Варшаву.

Было сабрана новае войска, але лёс паўстання быў ужо прадвырашаны. Корпус расійскага генерал-паручніка І.Ферзена перайшоў Віслу ў раёне Мацяёвіцаў, ідучы на злучэнне з корпусам А.Суворава. Т.Касцюшка вырашыў спачатку разбіць корпус І.Ферзена, а потым корпус Суворава. Аднак пад націскам расійскіх войскаў рэшткі беларуска-літоўскага войска адступілі на тэрыторыю Польшчы.

10 кастрычніка 1794 г. каля Мацяёвіцаў, на правым беразе Віслы, адбылася бітва паміж польскім корпусам Т.Касцюшкі (каля 7500 чалавек і 23 гарматы) і расійскім корпусам І.Ферзена (каля 14 тысяч чалавек і 56 гармат). Бітва скончылася не на карысць паўстанцаў. У палон трапілі цяжка паранены Т.Касцюшка, генералы К.Серакоўскі, І.Камінскі, К.Князевіч. Рэшткі польскага корпуса на чале з генерал-маёрам А.Панінскім адышлі да Варшавы, Т.Касцюшка і палонныя генералы былі пераведзены ў Пецярбург і кінуты ў Петрапаўлаўскую крэпасць. Толькі пасля смерці Кацярыны II (лістапад 1796 г.) Павел I вызваліў палонных, вярнуў Т.Касцюшку шпагу і дазволіў выехаць за мяжу, у ЗША, адкуль Касцюшка вярнуўся ў Еўропу ў 1798 г. Замест узятага ў палон Т.Касцюшкі найвышэйшым начальнікам паўстання быў прызначаны другі ўраджэнец Беларусі — генерал-лейтэнант Тамаш Ваўжэцкі (1753 — 1816). Яго родавы маёнтак знаходзіўся ў вёсцы Відзы Лаўчынскія (цяпер Браслаўскі раён). Але кіраваць паўстаннем яму прыйшлося крыху болей за месяц...

На Варшаву рушыла расійскае войска. Аляксандр Сувораў атрымаў загад камандаваць усімі расійскімі вайсковымі фармаваннямі ў Польшчы. Аб'яднаныя расійскія карпусы 4 лістапада ўзялі прадмесце Варшавы Прагу (на правым беразе Віслы), знішчыўшы па загаду Суворава і абаронцаў, і насельніцтва (18 тысяч чалавек). З 14 тысяч салдат і афіцэраў, што абаранялі Прагу, на левы бераг Віслы здолелі пераправіцца ўсяго 4 тысячы. Пры абароне Прагі загінуў і Якуб Ясінскі — кіраўнік Найвышэйшай нацыянальнай рады (паўстанцкага ўрада) на землях Беларусі і Літвы.

6 лістапада Варшава капітулявала. Рэшткі паўстанцкіх войскаў на чале з Т.Ваўжэцкім адступілі на поўдзень, дзе 16 лістапада пад Радошыцамі (на поўнач ад Кельцэ) былі рассеяны пад націскам расейцаў. Паўстанне 1794 года скончылася, скончылася паразай змагароў "за нашу і вашу свабоду" і ў Польшчы, і ў Вялікім княстве Літоўскім...

Вызвольнае паўстанне 1794 г. мела вялікае значэнне ў гісторыі Беларусі. Гэта было нацыянальнае паўстанне, накіраванае на ўзнаўленне незалежнасці Беларуска-Літоўскай дзяржавы ў яе гістарычных межах. Яно мела самастойны характар, але каардынавалася з польскім паўстаннем і стратэгічна падпарадкоўвалася адзінаму камандаванню ў Варшаве ў асобе начальніка паўстання Т.Касцюшкі.

Паўстанне мела сусветна-гістарычнае значэнне, бо стварала рэвалюцыйны асяродак ва Усходняй Еўропе і стала працягам Вялікай французскай рэвалюцыі. Яно выклікала нянавісць з боку манархаў суседніх дзяржаў, і перш за ўсё расійскай імператрыцы Кацярыны II. Мэты паўстання на Беларусі і ў Літве былі больш радыкальныя ў параўнанні з праграмай паўстання ў Польшчы. Віленская праграма была разлічана на больш паслядоўныя рэформы, у тым ліку прадугледжвала вызваленне сялян ад прыгонніцтва.

На Беларусі вайсковыя дзеянні ахапілі значную тэрыторыю Заходняй і Усходняй Беларусі. У іх удзельнічала прыкладна 30 — 40 тысяч чалавек са шляхты, гараджан, духавенства і сялян. Асноўную масу паўстанцаў складала шляхта. Паўстанне 1794 г. адкрыла перыяд шляхецкай рэвалюцыйнасці на Беларусі, які скончыўся ў 1863 г., калі было падаўлена трэцяе вызваленчае паўстанне на Беларусі пад кіраўніцтвам Вінцэнта Канстанціна Каліноўскага.

**Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ**

# МЯСЦІНЫ ПАЧЫНАЮЦЬ ГАВАРЫЦЬ




У жніўні ў Кунцаўшчыне пад Менскам сабраліся людзі, каб ушанаваць памяць паўстанцаў 1794 года ўсталяваннем каплічкі, выкананай менскімі майстрамі С.Бандалевічам і Х.Ладуцькам па праекце М.Купавы. Ушанаванне сталася ўрачыста шчымлівым. Гэтаму спрыялі ўдзел у ім а.Віктара, настаяцеля Івянецкай царквы прасвятой Еўфрасінні Полацкай, дэкана Беларускай грэка-каталіцкай царквы протапрасбітара а.Яна Матусевіча, прачулыя прамовы М.Купавы, У.Емяльянчыка, А.Станкевіча, А.Грыцкевіча, А.Мальдзіса, З.Пазьняка, узнёслая мелодыя малітвы вернікаў усіх канфесій "Магутны Божа".

**Людміла ДЗІЦЭВІЧ**

**Фота Уладзіміра КАРМІЛКІНА**

МАСТЫХІН

# ПРАЦЯГ ТРАДЫЦЫЙ УНОВИСа

Міжнародны пленэр "Малевіч-УНОВИС-Сучаснасць", які адбыўся сёлета ў Віцебску, пакінуў досыць супярэчлівыя ўражанні. Здавалася б, ёсць штосьці дзіўнае ў тым, каб запрасіць працаваць на прыродзе мастакоў, якія прынцыпова абмінаюць яе ў сваіх творах. Тым не менш выніковая выстава, што адкрылася 15 верасня ў Віцебскім краязнаўчым музеі, засведчыла, што два тыдні працы на берагах ляснога возера прайшлі не дарма. Напэўна, ёсць у беларускай прыродзе штосьці такое, што натхняе нават абстракцыяністаў.

Зрэшты, далёка не ўсіх удзельнікаў пленэру можна назваць сапраўднымі нашчадкамі Малевіча і УНОВИСа, большасць з іх працуе зусім у іншай стылістыцы, нашмат бліжэйшай да рэчаіснасці. Відаць, многіх запрасілі да ўдзелу проста па-сяброўску, бо належаць яны да іншых плыняў сучаснага мастацтва. Здзівіла таксама, што на пленэр не запрасілі многіх досыць вядомых нашых паслядоўнікаў Малевіча з Мінска, Полацка, Лондана і таго ж Віцебска. Часткова гэта тлумачыцца тым, што, паводле старшыні Шагалаўскага камітэта Давіда Сімановіча, на Шагалаўскі пленэр сёлета Міністэрства культуры і друку запрасіла шмат мастакоў з розных краін, не толькі тых, каго варта было запрашаць, а вось віцебскія мастакі "засталіся ў ценю". Кіраўнік жа прэс-цэнтра Таццяна Катовіч запэўніла журналістаў, што прынцыпова важна было наладзіць удзел менавіта віцебскіх мастакоў у Першым пленэры, прысвечаным Малевічу, а далей ягоная геаграфія будзе пашырацца. У выніку ж сёлетні пленэр ператварыўся проста ў добрае свята сучаснага мастацтва, якое існуе сёння ў Віцебску.

Міжнароднае журы пленэру, якое, дарэчы, складалася амаль выключна з маскоўскіх мастацтвазнаўцаў, адзінадушна (і з гэтым можна пагадзіцца) прысудзіла Гран-пры (1200 USD) Васілю Васільеву, які працуе ў стылі "інтуітыўнага супрэматызму". Гэты мастак запрашае ў сааўтары твора навакольныя рэчы, скарыстоўваючы іхнія адбіткі на пафарбаваным палатне. Ягонай мэтай, магчыма, з'яўляецца выкрыццё панавання геаметрыі ў сучаснай цывілізацыі. У экспазіцыі мастака прыцягваюць увагу чорны квадратны адбітак на чорным фоне, а таксама "негатывы" маснічын падлогі і пліт маставой — цікавы прыклад сінтэзу абстрактнага мастацтва і самой рэчаіснасці.

Першую прэмію (1000 USD) атрымаў адзін з арганізатараў пленэру Аляксандр Малей. Гэты мастак варты павагі за даволі змястоўную распрацоўку тэарэтычнай спадчыы Малевіча, азнаёміцца з якой можна ў альманаху "Такая жизнь — 2". У ягонай экспазіцыі запомніліся дзве працы: "Вёска Пальмінка" (спроба аб'яднаць стылістыку Малевіча і Шагала) і "Кубаквадрат" (чорны куб лунае ў супрэматычнай прасторы белага квадрата на белым жа фоне).

Адзіны мастак не з Віцебска, масквіч Леў Сцяпанаў быў узнагароджаны другой прэміяй (800 USD) за серыю перформенсаў, у якіх даследуецца праблема дыялога чалавека са стыхіямі, з якіх складаецца рэчаіснасць (з вадой, паветрам, агнём і г.д.). Абмінаючы фарбы і палатно, мастак непасрэдна трансфармуе аб'екты ў нешта нечаканае (напрыклад, воданапорную вежу — у касмічны карабель), каб пашырыць "тэрыторыю зроку" гледачоў ягоных відэасюжэтаў. На адкрыцці выставы Леў Сцяпанаў выканаў жыўцом яшчэ адзін перформенс. Пакуль ягоны сябра іграў у стылі free-jazz рукамі на скрыпцы, а нагамі — на нейкім металаломе, мастак задумліва перабіраў струны піяніна, а потым ускараскаўся на інструмент і, абгарнуўшыся празрыстай плёнкай, адасобіўся ад навакольнага свету.

На пленэры працавала тэарэтычная лабараторыя расійскіх і беларускіх мастацтвазнаўцаў. Адчувалася, што ў свядомасці расіян яшчэ не замацавалася паняцце "беларускі авангард": творчасць Малевіча і Стрэмінскага яны далучаюць або да сваёй, або да польскай спадчыны ў культуры. Тым не менш мастакі і журналісты з цікаўнасцю паслухалі спавешчанні Мікіты Махава аб расійскім авангардзе як найвышэйшай праяве чалавечага духу, Віталя Пацюкова — аб тым, што на сучасных выставах "зашмат мастацтва, а праўды няма". Вольга Шыхарава прадставіла Малевіча як вялікага містыфікатара — маўляў, больш характэрныя для яго абсурдысцкія, а зусім не супрэматычныя творы. Таццяна Катовіч распавяла аб сваіх спробах выкарыстаць "дадатковы элемент", вынайдзены Малевічам, для доследаў геаметрыі тэатральнага спектакля. Цікавую думку выказаў Аляксандр Малей: паводле яго, супрэматызм дае нам рэальнае выйсце з "тупіка трохмернай прасторы". А прадстаўніца расійскага фонду імя Малевіча пазнаёміла нас з планамі выдання Поўнага збору ягоных тэарэтычных твораў (ужо выдадзены два тамы з пяці). Дарэчы, гэты фонд потым прапанаваў быць ягоным прадстаўніком у Віцебску мастаку Андрэю Вярэнічу, якога ўдзельнічаць у пленэры не запрасілі. Ізноў жа такі здзівіла, што з мінскіх мастацтвазнаўцаў амаль ніхто не быў запрошаны.

На закрыццё пленэру прыехала кіраўніцтва генеральнага спонсара — Беларускага фонду Сораса. У сваёй прамове старшыня праўлення Фонду Алег Манаеў адзначыў, што лічыць адбыўшуюся імпрэзу вельмі карыснай для развіцця беларускай культуры. Разам з тым, Фонд Сораса не падтрымаў бы ідэю пленэру, калі б не быў упэўнены, што ў Віцебску ёсць усе неабходныя ўмовы для правядзення яго, а таксама людзі, апантаныя мастацтвам і любоўю да роднага горада.

Побач з будынкам, дзе раней месціліся майстэрні УНОВИСа, адбылася закладка помніка Казіміру Малевічу (аўтары праекта — скульптар Аляксандр Слепаў і архітэктар Ігар Лапуноў). Гарвыканкам прыняў рашэнне перадаць яго Беларускаму фонду Сораса з мэтай стварэння ў ім Цэнтра сучаснага мастацтва імя Малевіча, дзе, магчыма, знойдзецца месца і для Міжнароднай Акадэміі Авангарда, праект якой распрацавала віцебская філія Згуртавання беларускай шляхты.

**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

# ЖЫВАПІС ЧАЦВЁРТАГА ВЫМЯРЭННЯ

Апошнім часам заўважная роля ў панаўленні і развіцці мастацкай культуры Беларусі па праве належыць Віцебску. Тут нараджаюцца і рэалізуюцца арыгінальныя праекты фестываляў, конкурсаў, выставаў, юбілейных імпрэзаў, якія звычайна выходзяць за рамкі рэгія-



нальных з'яваў і становяцца падзеяй культуры для ўсёй рэспублікі.

У агульным культурным кантэксце жыцця горада традыцыйна прыцягваюць увагу вернісажы і выставы выяўленчага мастацтва. Дастаткова адзначыць, што толькі за апошнія месяцы, апрача многіх рэгулярных групавых і персанальных выставаў, у Віцебску адбыліся такія маштабныя і нешараговыя акцыі, як юбілейная выстава, прысвечаная 75-годдзю Віцебскай школы жывапісу, травеньская "Арт-сесія-94" (ужо традыцыйнае свята студэнцкай творчасці), арыгінальная па задуме персанальная выстава В.Васільева пад назвай "Праект Z", міжнародныя пленэры, прысвечаныя Шагалу і Малевічу, дзіцячы Рэпінскі пленэр.

Заўважнай падзеяй сярод іх сталася і групавая выстава "INFORMATION-94" у Палацы культуры прафсаюзаў. У гэтай выставе моўных сродкаў сучаснага выяўленчага мастацтва бралі ўдзел вядомыя мастакі з Мінска — Людміла Русава і Ігар Кашкурэвіч — і іхнія віцебскія паплечнікі Галіна Васільева, Мікола Прусаў, Васіль Васільеў і Андрэй Вярэніч. Свае працы яны экспанавалі ў шасці прасторных залах, што дазволіла кожнаму раскрыць сваю творчую індывідуальнасць. Што датычыць экспазіцыйных якасцяў саміх залаў ПКП — мяркую, не шмат ва ўсёй Беларусі знойдзецца месцаў, дзе можна было б ажыццявіць аналагічную па маштабе авангардную выставу, але важна адзначыць і варожасць архітэктурнага асяроддзя, агрэсіўнасць інтэр'ераў, тыповых для пампезнай эстэтыкі апошніх дзесяцігоддзяў таталітарызму ("брэжнеўскага барока"). Тым не менш мастакам удалося стварыць досыць паслядоўную і цэласную прастору грамадавання з гледачом.

Васіль Васільеў стварае манументальную прасторавую кампазіцыю "REX". Гэта гіганцкія канцэнтрычныя акружнасці на шэрым палатне, што вісіць на сцяне, і сувымерная ім акружнасць з рачнога пяску на падлозе, над якой лунае тонкі металёвы стрыжань. Інсталяцыя, якая сталася кампазіцыйным цэнтрам усёй выставы, увасабляе велічнае відовішча матэрыялізаваных колаў Часу, таямніцы "адвечнага вяртання".

Суседняя экспазіцыя прац Галіны Васільевай прыцягвае ўвагу рытмічнымі крыжаванымі структурамі. Геаметрычная экспрэсія ўтвараецца ўпэўненым спалучэннем яркіх каляровых палос і плоскасцяў.



Моцная энергетыка твораў, якія інтэнсіўна ўзаемадзейнічаюць з прасторай, выклікае асацыяцыі з паганствам, эстэтыкай элінізму, культам фізічнага ўвасаблення жыцця.

Зусім іншае ўражанне пакідае творчасць Міколы Прусакова. Ягоныя працы і ўвогуле экспазіцыя ігнаруюць агрэсіўнасць вонкавай прасторы, захоўваюць уласную самасць у груваскім аб'ёме інтэр'ера. Імкненне да аскетычнасці, някідкасці формы, што характэрна для знакавых сістэм, насычаных патаемнай энергетыкай, найбольш яскрава ўвасабляецца аўтарам у "Квадратным метры графіту", у спадарожных яму "Структурных палях I і II", у інсталяцыях "Няўцямнае" і "Вымярэнне 4" — версіі Часу, выток і канец якога нам аднолькава невядомыя.

Экспазіцыя мінчанкі Людмілы Русавай складаецца з шасці квадратных палотнаў тэкстылю з варыяцыямі ў трох колерах (белы, чорны, чырвоны) на тэму Крыжа. Шчыльна, без зазораў развешаныя па сценах буйнафарматныя працы ўтвараюць дзіўную магічную прастору — культуралагічную рэмінісцэнцыю супрэматызму і сярэднявечнай геральдыкі адначасова. Эстэтыка гэтай залы зачароўвае і нібыта ўцягвае гледача ў нейкі містычны рытуал.

Андрэй Вярэніч — таксама прыхільнік "чыстай" эстэтыкі, але ў іншым аспекце. Свой канцэптуальны праект з дзесяці прац, па фармаце сувымерных з маштабамі залы, ён назваў "Paradox Art". Манатонна-рытмічнае ўздзеянне на вока "шахматнай" структуры кропак-плямаў спараджае, насуперак статычнасці фарматаў (квадрат), нечаканае адчуванне галавакружэльнай дынамікі і экспрэсіўнасці.

Ігар Кашкурэвіч у сваёй творчасці засяродзіўся на вырашэнні прасторава-колеравай арганізацыі плоскасці. Па-майстэрску рэалізуючы свае прынцыпы спантаннарытмічнага нанясення слаёў фарбы валікам і фарбапультам, аэрографам і пэндзлем, аўтар стварае зграбныя жывапісныя "паверхні", якія пераканаўча дэманструюць высокі прафесіяналізм, тонкае пачуццё меры, цудоўную мастацкую інтуіцыю і прынцыповасць эстэтычнай пазіцыі мастака.

Рэзюмуючы свае ўражанні, хачу адзначыць, што "INFORMATION-94" прадэманстравала ўдалае спалучэнне творчых пошукаў у нефігуратыўным мастацтве Беларусі. Гэта станоўчы прыклад правядзення на высокім эстэтычным узроўні выставы сучаснага некамерцыйнага мастацтва ў наш не вельмі для яго спрыяльны час. Прыемна, што ўзаемны давер паміж удзельнікамі выставы і кіраўніцтвам СП "БЕЛВЕСТ" (дырэктар Ларыса Кузняцова), якое актыўна садзейнічала правядзенню выставы, выліўся ў заўважную падзею культурнага жыцця Віцебска і, можна меркаваць, усёй рэспублікі.

**Мікола АЛЯКСАНДРАЎ**

*На здымках:* экспазіцыі Галіны Васільевай і Міколы Прусакова.

**Фота Валерыя ІЛЬІНЧЫКА**

# ПАПЯРОВЫ ПАДМУРАК МАСТАЦТВА

У Нацыянальным мастацкім музеі адбылася двухтыднёвая выстава сучаснай французскай графікі "Аснова — папера", наладжаная пры дапамозе пасольства Францыі ў РБ і Французскай асацыяцыі мастацкіх праектаў. Выстава работ дзесяці мастакоў, якіх мы раней прылічылі б да Парыжскай школы (уласна французаў сярод іх таксама няшмат), складалася з твораў, выкананых у 1970 — 1985 гг. У сённяшнім еўрапейскім мастацтве



паняццяў "школа" ці "групоўка" ўжо не існуе: кожны цяпер творыць самастойна. Нават тры старэйшыя мастакі — Масон, Мішо і Мата — напачатку ўдзельнічалі ў сюррэалістычным руху, але неўзабаве пакінулі ягоныя шэрагі, ды яшчэ са скандалам... Сямёра астатніх тым больш немагчыма аб'яднаць пад нейкай агульнай шыльдай. Таму арганізатары выставы вырашылі паказаць працы трох пакаленняў сучасных мастакоў, якія скарыстоўваюць агульны матэрыял — паперу.

Яшчэ дваццаць гадоў таму французы лічылі гравюру і малюнак чымсьці другасным і легкаважным. Аднак эвалюцыя густаў публікі і, асабліва, прыхільнасцяў саміх мастакоў перамясціла акцэнты. Як мы цяпер бачым, некаторыя творцы — у прыватнасці, Андрэ Масон (найбольш вядомы і аўтарытэтны ўдзельнік выставы) — менавіта ў графіцы дасягнулі сваіх найвялікшых поспехаў. Анры Мішо (мастак і адначасна адзін з буйнейшых французскіх паэтаў стагоддзя) зацікавіўся жывапісам толькі пасля працяглых экспедыцый ва "ўнутраны космас" на тэхнічных прыладах графікі і літаратуры. Што датычыць італьянца Раберта Мата (былога архітэктара, паплечніка Лё Карбюзье), — менавіта графіка дапамагла яму распрацаваць марфалогію свету "пасля чалавека".

У творчасці Альбера Бітрана (аўтара ілюзорных "падвоеных" твораў) колер пераважае над графічным элементам, але без яго быў бы немагчымы чароўны "рэзананс" гэтых гравюр і малюнкаў. "Чорная графіка" баснійца Дадо адлюстроўвае самае дно чалавечай падсвядомасці, дзе амаль без святла і якой-кольвек перспектывы жывуць дзіўныя "ўнутраныя істоты". Турак Ферыт Іскан праз малюнкі вуглём знайшоў "новую фігуратыўнасць" для свайго пейзажнага жывапісу.

З маладых удзельнікаў выставы найбольш таленавітым лічыцца — за мноства тэхнічных навацый у галіне гравюры — немец па паходжанні Жор Артнер. Творы Франсуа Дэка — не толькі "Лабірынты", але і "Туманнасці" — з'яўляюцца на свет праз вельмі выразны малюнак. Мастачка Калет Дэбле паверх асноўнага малюнка робіць яшчэ адзін — на шкле — і такім чынам стварае трохмерныя "вокны", што надае малюнку дадатковую глыбіню. Нарэшце, у полькі Маргарыты Пашко малюнак і жывапіс на паперы настолькі злітыя, што адрозніць іх ужо немагчыма.

Паводле саветніка французскага пасольства Аляксандра Талстога, выстава атрымалася невялікай па памерах, але багатай па змесце, бо можа даць уяўленне пра многія плыні ў мастацкім жыцці гэтай еўрапейскай краіны.

Дадам, што падчас вернісажу гурт інтуітыўнай імправізацыі "Князь Мышкін" узбагачаў нашыя візуальныя ўражанні акустычнымі: мы не толькі бачылі сучаснае мастацтва, але нібыта чулі і ягоны голас.

**Барыс ЮР**

*На рэпрадукцыі:* Андрэ Масон,"Лунацікі".

ПРАЗ ГАДЫ

## Аляксандр ЛУКАШУК

# ВЯРТАНЬНЕ НАЦЫЯНАЛІСТА, або ГІСТОРЫЯ ЯНКІ ФІЛІСТОВІЧА

***Дакументальная радыёп'еса***

*(Працяг. Пачатак у № 41 — 43)*

**Суд:** Падсудны Філістовіч, Вы разумелі, што настойваючы на паскоранай узброенай падрыхтоўцы нацыяналістаў замежжа, Вы выконвалі загад імперыялістычных колаў Захаду на захоп СССР, як раней выконвалі загады нямецка-фашысцкіх захопнікаў?

**Янка:** Я шкадаваў, што не меў на 10 гадоў больш, я б стараўся прычыніцца да паляпшэньня дабрабыту Бацькаўшчыны хоць бы збройнай, хоць бы прыйшлося сто разоў паміраць за яе. А ў Парыжы мы самі не маглі ні паскорыць, ні затрымаць міжнародных падзеяў.У 1947 годзе я спрачаўся з сябрам, Аляксандрам Лашуком. Я ніколі не згаджаўся, што вайна магла ня быць 15-20 год. Мы жывем у атамнай эпосе, даводзіў я, і не за год-два чырвоная зараза знойдзе ці, найбольш магчыма, украдзе таямніцу атамнай бомбы, і тады крышка ўсякім перашкодам перад імі. Гэта добра знаці амерыканцы і англічане, а таксама любы сярэдні чалавек, які сочыць за падзеямі.

**Суд:** Падсудны Філістовіч, Вы не можаце адмаўляць, што здаровая частка працоўнай эміграцыі не падзяляла гэтых правакацыйных поглядаў і займалась працай, трымаючыся ўбаку ад падобных правадыроў.

**Янка:** Мы не на тое прыехалі на чужыну, каб заснаваць сабе другую Бацькаўшчыну ды заняцца выключна сваімі справамі. Будаваньне свайго асабістага жыцьця тады ня можа мець месца, але калі б хто за яго прыняўся, супакою ня знойдзе. Як жа можа мець шчасьце той, хто адвяртаецца ад Роднай Маці, каб ня чуць ейных сьлёзаў, ня бачыць ейнага гора!

Мы не пакінулі Бацькаўшчыну на тое, каб аддаць свае сілы і энергію далёка ў чужыне. Мы павінны дбаць аб добрым імені беларуса як на працы, гэтак і ўсюды, адначасна не забываючыся, што мы мусім вяртацца назад поўныя сілы як фізычнай, так і духовай. Першая рана ці позна вычэрпваецца, другая не памірае ніколі і перадаецца ў спадчыну пакаленьням. Толькі тады мы зможам выканаць абавязак перад Бацькаўшчынай, калі навучымся не толькі слухаць, уздыхаць ды спачуваць, але, закасаўшы рукавы, сапраўды па-беларуску возьмемся за працу для нашай будучыні. Мусім памятаць словы нашай паэткі, Ларысы Геніюш:

*Не сумуйце, дзяцюкі,*
*вясною*
*На магілы гледзячы сяброў.*
*Жалем нашых ранаў*
*не загоіш*
*І цяжкіх не скінеш кайданоў.*
*Не сумуйце, дзяцюкі,*
*па долі,*
*Не хіліце гордай галавы,*
*Бо не з жалю, толькі*
*з ранай болю*
*Воля толькі родзіцца з крыві.*

**Суд:** Суду вядома, што Вы, Філістовіч, не абмежаваліся прапагандай заўзятых нацыяналістычных поглядаў, але і стварылі канспіратыўную антысавецкую арганізацыю "БНАМ". Што азначае гэты шыфр?

**Янка:** Заўвагі адносна нашых заданьняў мала застасоўваліся ў нашым практычным жыцьці. Адзін з нашых сяброў лёг у шпіталь, яго матэрыяльнае і маральнае становішча стала надзвычай цяжкім. У такім выпадку нашым сьвятым заданьнем перад Бацькаўшчынай ёсьць падтрымаць кожнага беларуса ў бядзе. Але, дабраўшыся за пару сот кіламетраў туды, дзе ляжыць наш сябра, мы з сумам пераканаліся, што бальшыня сяброў у гэтым дэпартаменце ня знаюць аб яго няшчасьці, а хто знае, гэтак заняты штодзённымі клопатамі, што забываецца і аб хворым браце, і аб сваім абавязку перад Бацькаўшчынай. Той, хто не захоча ці не зможа здабыцца на высілак у малой справе, ніколі не здабудзецца на яго ў вялікай. Бо чым большай яна будзе, тым больш вымагаецца ахвярнасьці.

Чагосьці бракавала, каб нашае жыцьцё зрабіць жывым, магутнейшым, цэнтрам прыцягваньня. Мы былі ў стадыі чаканьня, напружаньня, што найбольш вычэрпвае сілы і цярпеньне. Бракавала сапраўды жывой арганізацыі моладзі, не хапала пачуцьця грамадзкай адказнасьці і здысцыплінаванасьці. Мы пастанавілі стварыць у Францыі жывую арганізацыю моладзі, якая сцэментуе нас, прыцягне да грамадзкай працы, прышчэпіць тыя якасьці, якіх не стае.

БНАМ — Беларуская незалежніцкая арганізацыя моладзі, была ўтворана на зьезьдзе 26 сакавіка 1949 году.

**Суд:** Падсудны, раскажыце падрабязна, хто арганізаваў гэта зборышча нацыяналістаў і хто браў у ім удзел.

**Янка:** У ініцыятыўную групу, апроч мяне, уваходзілі Міхась Наўмовіч, Аўген Кавалеўскі, Міцкевіч, Арсенцій Монід, Сурвіла, Кранеўскі. Былі разасланыя заклікі. Лік нашай моладзі ў Францыі не сягаў высокіх лічбаў, яе нарахоўвалася ўсяго некалькі сотняў. Першапачаткова планавалі правесьці зьезд напачатку лютага. Але потым перанесьлі да ўгодкаў БНР.

26 сакавіка а 3-й гадзіне папалудні ў зале Сындыкату СФТС, сьвяточна ўбранай бел-чырвона-белым сьцягам, пад агульны сьпеў нашай ваяцкай песьні-малітвы "Беларусь, наша Маці-Краіна" распачаў сваю працу першы зьезд беларускае моладзі Францыі. Зьезд ушанавалі сваёй прысутнасьцю прэзідэнт БНР Мікола Абрамчык, старшыня Рады Сусьветнага аб'яднаньня Беларускай Эміграцыі Леў Рыдлеўскі, ягоны заступнік на Францыю Уладзімер Шыманец і рэктар Беларускае рэлігійнае місіі ў Францыі айцец Леў Гарошка. Былі таксама госьці — прадстаўнікі братняе Украінскае моладзі.

Бальшыня дэлегатаў зьезду былі з Парыжу ды ягоных бліжэйшых ваколіцаў, а іншыя дэлегаты, ня маючы магчымасьцяў асабіста прысутнічаць, даслалі свае мандаты і прывітаньні. Нягледзячы на параўнаўча невялікую колькасьць дэлегатаў (15 асобаў), зьезд прайшоў надзвычай пасьпяхова, у паважных дыскусіях ды цёплай сяброўскай атмасферы.

**Суд:** Падсудны Філістовіч, ахарактарызуйце падрабязьней Ваш асабісты ўдзел у рабоце так званага зьезду і ролю астатніх дэлегатаў.

**Янка:** Я адкрываў зьезд і быў абраны яго старшынёй. Зачытаў прывітальныя лісты ад палкоўніка Кушаля, ад асобных сяброў і групаў, якія не змаглі прыехаць у Парыж. Прэзідэнт БНР Мікола Абрамчык вітаў зьезд, дадаючы, што ворагі нашае Бацькаўшчыны на працягу стагоддзяў сьведама адрывалі беларускую моладзь ад змаганьня старэйшых за сьветлыя нацыянальныя ідэалы. "Маладое



беларускае пакаленьне мусіць заняць у адпаведны час мейсцы старэйшых змагароў за незалежную Беларусь",— сказаў прэзідэнт. Айцец Леў Гарошка гаварыў, што маладая пчала выконвае сваю працу хутчэй і лепш ад старэйшае і на гэтым палягае Боская ўказка для нашай моладзі.

Інжынер Рыдлеўскі адзначыў, што нашая моладзь на эміграцыі знаходзіцца пад небясьпечным уплывам вонкавага эўрапейскага жыцьця, якое можа часам адарваць яе ад змаганьняў старэйшага грамадства за адвечны ідэал беларусаў, і заклікаў да як найцясьнейшага супрацоўніцтва зь дзеячамі і арганізацыямі, якія непахісна стаяць на грунце 25 сакавіка і БНР. Ад імя Сусьветнага Аб'яднаньня Беларускае Эміграцыі склаў прывітаньне заступнік старшыні спадар Шыманец, ад Саюзу Украінскіх Пластуноў — спадар Вішнеўскі.

**Суд:** Якія мэты былі пастаўлены перад так званым Незалежніцкім аб'яднаньнем моладзі?

**Янка:** На думку ініцыятыўнай групы па скліканьні зьезду, заданьні стаялі наступныя: рэпрэзэнтацыя навонкі, выхаваньне моладзі ў нацыянальным духу, павышэньне якасьці часопісу "Моладзь", супрацоўніцтва з усімі арганізацыямі, якія ўваходзяць у склад САБЭ і навязваньне лучнасьці з арганізацыямі моладзі іншых нацыянальнасьцяў, а таксама — зарганізаваньне беларусаў, якія яшчэ па сёньня знаходзяцца ў чужацкіх асяродках, а таксама канцэнтраваньне беларускае моладзі ля цэнтру Францыі.

**Суд:** Што маецца на ўвазе пад "рэпрэзентацыяй навонкі"? Якія канцэнтрацыйныя лагеры для моладзі ў цэнтры Францыі планавала БНАМ?

**Янка:** Меркавалася ў меру магчымасьцяў сьцягваць з правінцыяў паадзіночна найбольш актыўную моладзь да Парыжу як цэнтру Францыі. Дзеля гэтага падшукваць працу, памяшканьні і адпаведныя дазволы французскіх уладаў на пражыцьцё. Таксама пастанавілі навязаць цесную лучнасьць зь беларускай моладзьдзю ў Нямеччыне, Англіі, Бэльгіі і іншых краінах. Па першаму пункту паставілі сабе за мэту пашырэньне спаміж чужынцаў назову, культуры, нацыянальных ідэяў і здабыткаў Беларускага Народу шляхам зарганізаваньня тэатральнага гуртка, а ў будучым — тэатру беларускае моладзі, мастацкіх выставаў, літаратурных і сяброўскіх вечараў, якія маглі б прыцягнуць увагу людзей іншых нацыянальнасьцяў, спартыўных секцыяў ды іншага.

**Суд:** Падсудны Філістовіч, пакажыце дакладна, хто ўвайшоў у кіруючыя органы і ўзначальваў так званую БНАМ?

**Янка:** Старшынёй Цэнтральнае ўправы абралі мяне, сакратаром — Аўгена Кавалеўскага, скарбнікам — Міхася Наўмовіча. Былі абраны рэвізійная камісія на чале з Арсенціем Монідам і сяброўскі суд, які ўзначаліў спадар Ляўковіч.

**Суд:** Якія Вы мелі разыходжаньні паміж сабой? Чаму Вы потым пакінулі пасаду старшыні ўправы?

**Янка:** Пасьля мяне старшынёй БНАМ стаў Міхась Наўмовіч. Гэта было зьвязана з маім ад'ездам з Францыі ў Бэльгію. Я не мог працягваць вучобу ў Сарбоне, бо, як высьветлілася, паводле Унівэрсітэцкага рэгламенту, атэстат Украінскай акадэміі аказаўся недастатковым. У сакавіку 1951 году па запрашэньні Камітэта дапамогі беларускім студэнтам Лювэнскага ўніверсітэту я прыехаў у Лювэн і быў залічаны на 4-ты курс гістарычнага факультэту. Стыпендыі паспрыяў Беларускі саюз студэнтаў, які ўзначальваў Барыс Рагуля. У каталіцкім унівэрсітэце Лювэна вучыліся многія дзесяткі маладых беларусаў, якія па волі лёсу мусілі пакінуць Бацькаўшчыну.

**Суд:** У Лювэн Вы. прыехалі ўжо з пасьведчаньнем сябра так званай Рады БНР. Як гэта сталася?

**Янка:** Незадоўга да ад'езду ў Бэльгію, 11 сакавіка 1951 году, прэзідэнт Абрамчык запрасіў мяне да сябе ў хату, дзе ўручыў мне пасьведчаньне сябра БНР і ўпаўнаважанага прадстаўніка ўраду БНР, датаванае 11 сакавіка 1951 году.

**Суд:** Трыбунал лічыць, што досыць поўна высьветліў Ваша маральна-палітычнае аблічча і ідэалагічную арыентацыю як буржуазнага нацыяналіста, ідэолага нацыяналістычнага маладзёжнага руху, арганізатара замежнага антысавецкага падпольля, сьвядомага і заўзятага ненавісьніка савецкага сацыялістычнага ладу рабочых і сялян.

Такім чынам, прычыны, якія штурхнулі Вас у абдымкі варожай амерыканскай разьведкі, суду ясныя.

**Янка:** Калі б адна энергія, ахвярнасьць духу і вера былі дастатковыя для пераадоленьня перашкодаў і тых, хто нам іх ставіць,— ужо б даўно парасла трава над апошнімі традыцыйнымі ворагамі, а наша агульная Беларуская справа даўно дасягнула сваёй мэты.

**Суд:** На допыце ў КДБ Вы далі паказаньне аб ролі Барыса Рагулі ў Вашай засылцы ў СССР. Цытуем:"Пераканаўшыся, што я моцна стаю на нацыяналістычных пазіцыях і зьяўляюся прыхільнікам актыўных дзеяньняў супроць Савецкай дзяржавы, Рагуля прапанаваў мне перабрацца на тэрыторыю Савецкай Беларусі, не чакаючы пачатку вайны, і разгарнуць там актыўную нацыяналістычную работу". Як адбылася Ваша сустрэча з амерыканскай разьведкай?

**Янка:** Я нічога не жадаў, толькі як найболш быць карысным Маці-краіне, толькі гэтага я прасіў у Бога. Гэта мне шмат разоў ледзь не каштавала жыцьцём, а таксама жыцьцём маіх родных бацькоў, брата, сёстраў, але ж ня толькі мне... Першая сустрэча з чалавекам, які называўся Стыфам, адбылася 8 жніўня 1951 году. Ён паабяцаў дапамагчы патрапіць на Бацькаўшчыну. Неўзабаве я пакінуў Лювэн. У мястэчку Верысгофэн пад Мюнхенам вывучаў тапаграфію, вучыўся карыстацца компасам, вызначаць каардынаты, распальваць касьцёр. Вучыўся скакаць з парашутам. Трэніраваўся ў стральбе. Шмат чытаў — савецкія газэты і часапісы, літаратуру.

**Суд:** Хто яшчэ разам з Вамі праходзіў абвучэньне ў амерыканскай разьведшколе ў Баварыі?

**Янка:** Канстанцін Амор, былы рэдактар часапіса Згуртаваньня беларусаў Велікабрытаніі "Беларус на чужыне". Ён меўся ляцець са мной радыстам, але я паляцеў адзін.

**Суд:** Якія інструкцыі Вы атрымалі перад адпраўкай у СССР?

**Янка:** У жніўні да мяне ў Мюнхен прыязджаў Барыс Рагуля. Ён паведаміў, што хадайнічаў перад урадам БНР аб прысваеньні мне званьня падпалкоўніка. Мы ўсе меркавалі тады, што вось-вось пачнецца вайна, і неабходна, каб на Беларусі былі падрыхтаваны кадры, каб заступіць бальшавіцкую ўладу. Рагуля хацеў, каб я зьезьдзіў у Вільню, каб пераканацца, колькі зараз жыве беларусаў у нашай колішняй сталіцы, а таксама пашырыў зьвесткі пра БНР. Ён перадаў мне лістоўкі "Жыве Беларусь", тэксты гімну, звароту да беларускага народу і газэты і сказаў, што ідэальна было б, калі б да яго прыезду я не зрабіў ніводнага стрэлу. Амерыканцаў цікавілі настрой людзей, дадзеныя пра разьмешчаньне і перамяшчэньне войскаў. Я меўся адпраўляць пісьмы, напісаныя тайнапісам, у розныя адрасы за мяжой.

**Суд:** Як адбывалася Ваша перакідка праз дзяржаўную мяжу?

**Янка:** 9 верасьня 1951 году я выляцеў з Мюнхена на поўнач Нямеччыны. Тут памянялі самалёты. Праз чатыры-пяць гадзінаў лёту былі над Беларусьсю. Выкінулі мяне надзвычай удала. Я прызямліўся паблізу сваёй вёскі Паняцічы. Закапаў парашут, схаваў зброю і іншыя рэчы і накіраваўся ў вёску.

**Суд:** Як Вас сустрэлі калгаснікі?

**Янка:** Наша хата была аддадзена пад школу. Я зайшоў да суседа, Якава Кіселя. Расказаў адкуль прыбыў, як. Яго жонка схадзіла паклікаць майго дзядзьку, брата маці Пятра Куляша. Падрабязна расказаў пра сябе, пра сваё заданьне. Разам схадзілі, выкапалі парашут. Сустракаўся з некаторымі аднавяскоўцамі, сваякамі. Гаварылі пра жыцьцё ў калгасе, бясконцыя займы, падаткі. Я расказваў пра сваю місію, гаварыў, што закінуты амерыканцамі з-за мяжы, даводзіў, што ўрад БНР, калі прыйдзе, памяняе камуністычныя парадкі.

**Суд:** Хто хаваў Вас ад органаў Савецкай улады да таго часу, як перайшлі ў лес?

**Янка:** Я жыў у сваякоў і іх знаёмых. У свайго дзядзькі Уладзіміра Крэня, у Зінаіды Стахевіч у Гародні, у Анастасіі Скабей і ў сям'і яе зяця, у цёткі Кацярыны Кулеш і Івана Пёхура ў вёсцы Пярыслава Мёрскага раёну... Прытулак у родным краі знайсці ня цяжка.

**Суд:** Чаму Вы не сказалі, што амаль паўгода хаваліся ў вёсцы Пузава ў Пятра Самаля і ягонай дачкі Соф'і? Які ўдзел бралі яны ў ажыцьцяўленьні Вашых акцый?

**Янка:** У сям'і Пятра Самаля, далёкага сваяка, апроч дачкі нікога не было. Я жыў у іх хляве на гарышчы, на сене. Хлеў стаяў метраў за дзесяць ад хаты. Унізе гаспадары трымалі карову з цялятамі, авечак, кабанчыка. Але павінен сказаць, што дачка была супраць таго, каб я жыў у іх, і не раз гаварыла гэта бацьку. Ніякай дапамогі, апроч прытулку і харчаваньня, ні бацька, ні дачка мне не аказвалі. Яны ды яшчэ дзядзька Пётр Кулеш былі адзіныя, хто падымаўся да мяне на гарышча. Пётр Самаль быў вельмі стары, глухі, я нічога не мог яму даручыць, калі б і хацеў.

*(Далей будзе)*

# ТЭЛЕБАЧАННЕ

## Серада, 2 лістапада

### Беларускае тэлебачанне

8.00 Пралог.
8.05 "Слова пра вечнае".
8.10 Дак. фільм БТ "Адхланне".
8.50 Кола дзён. "Дзяды".
9.25 "Яднанне". Прамы эфір (з плошчы Максіма Багдановіча).
9.30 "Восень на Палессі". Відэафільм.
10.10 У эфіры — Гомель.
10.15 "Слова пра вечнае".
10.20 "Музы палацаў і паркаў старажытных". Музычная праграма.
11.10 "Яднанне". Прамы эфір.
11.15 "Край". Рабінзанада доктара Руселя. Частка 1-я.
11.45 Спявае камерны хор пад кіраўніцтвам І. Палянскага.
12.00 "Край". Частка 2-я.
12.20 У эфіры — Віцебск.
12.25 "Слова пра вечнае".
12.30 "Святло таленту". Успаміны пра беларускіх акцёраў.
13.35 "Яднанне". Прамы эфір.
13.40 Да 50-годдзя Перамогі. "У вайны не жаночы твар". Дак. фільм.
14.25 "Праз усю вайну". Музычны фільм.
14.45 У эфіры — Гродна.
14.50 "Слова пра вечнае".
14.55 "Імша па Купалу". Дак. фільм.
15.15 "Дзяды". Нашы радаводы. Прамы эфір (з Літаратурнага музея Янкі Купалы).
16.10 Постаці мінулага.
16.40 "Песня пра Зубра". Мультфільм паводле паэмы М. Гусоўскага.
17.00 У эфіры — Брэст.
17.05 "Яднанне". Прамы эфір.
17.10 "Сустрэчны іск". Дак. фільм.
18.00 "Дзяды": "Зорка яднання: дзяды-бацькі-дзеці-будучыня". Прамы эфір.
18.45 "Яна была само жыццё". Памяці маці паэта Максіма Багдановіча.
19.05 "Яднанне". Прамы эфір.
19.10 "Дарога на Курапаты". Дак. фільм.
20.20 У эфіры — Магілёў.
20.25 "Як ліса воўка судзіла". Мультфільм.
20.35 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.35 "Слова пра вечнае".
21.40 "Дзікае паляванне караля Стаха". Маст. фільм. 1-я серыя.
22.45 НІКа.
23.05 "Дзікае паляванне караля Стаха". 2-я серыя.
24.00 "Не згасне памяць..."

### Канал "Астанкіна"

5.30 Раніца.
6.50, 7.50, 8.50, 9.50, 14.50, 15.50, 17.50, 20.00, 23.25 Навіны.
7.00 "Раніца".
8.00 "Вайна гобатаў".
8.25 "Дзікая Роза".
9.00 Клуб падарожнікаў (з сурдаперакладам).
15.00 Паглядзі, паслухай.
15.20 Адказы.
16.00 Камп'ютэр-хол.
16.20 "Элен і хлопцы". Маладзёжны серыял.
16.50 Свет сёння.
17.00 Тэлерадыёкампанія "Мір".
17.30 Знак пытання.
17.40 Дакументы і лёсы.
17.45, 20.30 Надвор'е.
18.00 Гадзіна пік.
18.30 "Дзікая Роза".
18.55 "Серпанцін". Аўтарская праграма М. Захарава.
19.40 Добрай ночы, малышы!
20.40 Маналог.
20.50 Вестуны.
21.20 Футбол. "Баварыя" (Мюнхен) — "Спартак" (Масква).
23.30 Футбол. Ліга чэмпіёнаў.
0.40 Прэс-экспрэс.

### Канал "Расія"

6.30 Формула-730.
7.00, 11.00, 15.00, 19.00, 22.00 Весткі.
7.20 Патрабуюцца...
7.30 Час дзелавых людзей.
8.00 Сусветныя навіны Эй-бі-сі.
8.25 Гандлёвы дом.
8.40 У свеце жывёл.
9.35 Здарова жывеш.
9.50 Тэатральны раз'езд. "Гарачае сэрца" А. М. Астроўскага.
10.35 Тэлегазета.
10.40 Сялянскае пытанне.
15.20 "Рабінзон-94".
15.50 Там-там навіны.
16.05 Свята кожны дзень.
16.15 "Далёкі Усход".
16.55 Не быць дыназаўрам.
17.15 Чалавек справы.
17.45 Рубяжы.
18.00 Фільм-прэм'ер.
18.15 Ніхто не забыты.
18.20 Залатая шпора.
19.25 Падрабязнасці.
19.35 "Санта-Барбара".
20.30 "Татава музыка".
21.05 Газетныя гісторыі.
22.20 Аўтаімгненне.
22.25 Спартыўная карусель.
22.30 Экран крымінальных паведамленняў.
22.40 Тэлетэатр. В.Шэфнер."Круглая тайна".
23.40 Зоркі гавораць.

### Санкт-Пецярбург

12.00, 14.30, 18.30, 21.30 Інформ ТБ.
12.10 Чароўная лінія.
12.25 "Нямецкая хваля".
13.00 Хуткая дапамога.
13.35 "Каміла, ці Нераскрытыя таямніцы".
14.45 "Шоу-бой". Маст. фільм.
16.15 "Як Дыназаўрык сяброў знайшоў".
16.30 Будні.
16.50 "Чакайце мяне, астравы". Маст. фільм.
17.55 Гістарычны альманах.
18.50 Спорт, спорт, спорт...
19.10 Вялікі фестываль.
19.30 "Каміла, ці Нераскрытыя таямніцы".
20.25 Блеф-клуб.
21.00 "Федэрыка і Рыма". Прэм'ера "Лентэлефільма".
21.10 Тэлемагазін.
21.15 Тэлеслужба бяспекі.
21.45 Спартыўныя навіны.
21.55 Ваш стыль.
22.05 "Ціхая дама" С. Шолахава.

### 8-ы канал

18.00 Мультфільм ЗША "Дзік Трэйсі".
18.45 СОЛТЭК: "Навіны".
19.00 "Марэна Клара".
19.55 Агенцтва "Парнікс": "Гарадскі гадзіннік", "Навіны".
20.05 ММ-4: "Нямецкая хваля".
20.40 "Шансы".
21.30 Студыя "БМ".
21.50 Маст. фільм "Дуэль робатаў".

## Чацвер, 3 лістапада

### Беларускае тэлебачанне

8.00 Раніца рэспублікі.
8.10 Эканамікст.
8.20 Дайджэст.
8.30 Пяць хвілін на жарты.
8.40 "...А таксама цырк". Фільм-канцэрт.
9.30 "Маё каханне, мой смутак".
10.30 "Сцяжынкай матчынай". Да 50-годдзя беларускамоўнага ліцэя ў Бельску Падляскім (Польшча).
10.50 "Горад юнацтва майго. Клецк".
11.15 Што на свеце пачуваецца...
12.00 "Бімбат". За кулісамі чароўнага.
12.20 Тэлефестываль "Песню бярыце с сабою" ў Магілёве. Частка 1-я.
15.30 Відзьма-нявідзьма.
16.30 Закон і ты. Тэлеклуб падлеткаў. Узаемаадносіны ў сям'і, правы дзіцяці. Прамая лінія.
17.00 Навіны (з сурдаперакладам).
17.10 "Бімбат". Марсельеза.
17.30 Роднае слова. "А надпіс пакажа..."
18.00 Абласныя навіны (Гродна).
18.15 Крымінальная хроніка.
18.35 Навіны Бі-бі-сі.
19.10 Бізнес-рынг. Недзяржаўныя формы вышэйшай адукацыі.
19.40 "Науцілус". Праграма для аматараў турызму і адпачынку.
20.00 "Эксперымент у Пінску". Прымае ўдзел намеснік міністра ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь М. В. Крэчка.
20.25 Кантакт.
20.30 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.40 Пяць хвілін на жарты.
21.45 "Маё каханне, мой смутак".
22.45 "Правінцыя". Іванаўскі раён. Частка 1-я.
23.25 НІКа.
23.40 Дайджэст.
23.50 Аўта-парк.
0.10 "Супермадэль Беларусі-95".
0.25 Пад купалам Сусвету.

### Канал "Астанкіна"

5.30 Раніца.
6.50, 7.50, 8.50, 9.50, 14.50, 15.50, 17.50, 20.00, 22.50 Навіны.
7.00 "Раніца".
8.00 "Вайна гобатаў".
8.25 "Дзікая Роза".
9.00 У свеце жывёл (з сурдаперакладам).
9.40 Экслібрыс.
15.00 Мульцітролія.
15.30 На балі ў Папялушкі.
16.00 Цін-інтым.
16.20 "Элен і хлопцы". Маладзёжны серыял.
16.50 Свет сёння.
17.00 ...Да 16 і старэйшым.
17.30 Спявае Харыс Шарыпаў.
17.40 Дакументы і лёсы.
17.45, 20.30 Надвор'е.
18.00 Гадзіна пік.
18.25 "Дзікая Роза".
18.55 Кіназорка. А. Джыгарханян.
19.40 Добрай ночы, малышы!
20.40 Масква — Крэмль.
21.00 Лато "Мільён".
21.30 "Як быць каханай". Маст. фільм (Польшча).
23.30 Прэс-эспрэс.

### Канал "Расія"

6.30 Формула-730.
7.00, 11.00, 15.00, 19.00, 22.00 Весткі.
7.20 Патрабуюцца...
7.30 Час дзелавых людзей.
8.00 Сусветныя навіны Эй-бі-сі.
8.25 Паехалі.
8.35 Рубяжы.
8.50 "Санта-Барбара".
10.30 Тэлегазета.
10.40 Сялянскае пытанне.
15.20 Студыя "Рост".
15.50 Там-там навіны.
16.05 Свята кожны дзень.
16.15 Новая лінія.
16.55 Мульці-пульці. "Заяц, барсук і воўк".
17.10 Будні.
17.50 Пяць хвілін аб добрым жыцці.
17.55 У свеце аўта— і мотаспорту.
18.25 Свая гульня.
19.25 Падрабязнасці.
19.35 "Санта-Барбара".
20.30 Я — лідэр.
21.00 "Нос". Дакументальна-публіцыстычны фільм.
22.20 Аўтаімгненне.
22.25 Спартыўная карусель.
22.30 Экран крымінальных паведамленняў.
22.40 Піяніст Алег Волкаў.
23.20 Зоркі гавораць.

### Санкт-Пецярбург

12.00, 14.30, 18.30, 21.30 Інформ ТБ.
12.10 "Як склалі казку". Мультфільм.
12.20 Тэлемагазін.
12.25 "Нямецкая хваля".
13.00 Хуткая дапамога.
13.35 Урок нямецкай мовы.
13.55 "Еўрапейскі калейдаскоп".
14.20 Мультфільм.
14.40 "Справа Румянцава". Маст. фільм.
16.25 Чароўная лінія.
16.45 "Болдзінская восень". Сцэны са спектакляў.
17.10 Казка за казкай.
17.55 Адкрываю для сябе Расію.
18.50 Спорт, спорт, спорт...
19.10 Вялікі фестываль.
19.25 "Камедыя аб Лісістраце". Маст. фільм.
21.10 Тэлемагазін.
21.15 Тэлеслужба бяспекі.
21.45 Спартыўныя навіны.
21.55 Ваш стыль.
22.05 Вячэрні звон.

### 8-ы канал

18.00 Мультфільм ЗША "Дзік Трэйсі".
18.30 Наша спадчына: "Гудзевіцкі літаратурна-краязнаўчы музей. Зала народнай медыцыны".
19.00 Тэлесерыял "Марэна Клара".
20.00 БАНТ: "Рэпартаж".
20.05 Мультфільм.
20.20 ММ-4: "Да ведама".
20.40 Тэлесерыял "Шансы".
21.30 Студыя "БМ": "Квадракола".
21.50 Маст. фільм "Каханне".

## Пятніца, 4 лістапада

### Беларускае тэлебачанне

8.00 Раніца рэспублікі.
8.10 Дайджэст.
8.20 Пяць хвілін на жарты.
8.30 "Вечная раніца аперэты". Фільм-канцэрт.
9.30 "Маё каханне, мой смутак".
10.30 "Науцілус". Праграма для аматараў турызму і адпачынку.
10.50 "І льецца хваляй песня..." Клічаўскі народны хор.
11.15 "Мумі-Троль і камета". Мультфільм.
11.55 "Бімбат". "Марсельеза".
12.15 Тэлефестываль "Песню бярыце з сабою" ў Магілёве. Частка 2-я.
15.20 Крок насустрач. Беларуска-амерыканская жаночая валанцёрская ініцыятыва.
16.00 Гасцёўня "Тэлебома". Сустрэча з Я. Паплаўскай і А. Ціхановічам.
17.00 Навіны (з сурдаперакладам).
17.10 "Бімбат". "У яблычак".
17.30 "Зрабі сабе кар'еру". Прамая лінія.
18.00 Абласныя навіны (Магілёў).
18.15 Кантакт.
18.20 Пяць хвілін на жарты.
18.35 Навіны Бі-бі-сі.
19.10 Эканамікст.
19.20 "Музыка без межаў". Музычны часопіс.
20.05 "Цёмны пакой". Споведзь гандляра.
20.35 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.40 Студыя "Тэлесябрына". Падарункі на добры настрой.
21.55 Рэтраспектыва фільмаў Уладзіміра Матыля. "Зорка чароўнага шчасця".
23.25 НІКа.
23.40 Тэлефестываль заходнепалескай эстраднай песні "Етвызь". 1-я частка.
0.40 Дайджэст.
0.50 Пад купалам Сусвету.

### Канал "Астанкіна"

5.30 Раніца.
6.50, 7.50, 8.50, 9.50, 14.50, 15.50, 20.00, 22.50 Навіны.
7.00 "Раніца".
8.00 "Сарока". Дзіцячая інфармацыйная праграма.
8.20 Мультфільмы.
9.00 Туніс. Між мінулым і будучым.
9.35 "Кешка і бізнес". Фільм для дзяцей.
15.00 "Кэтвізл".
16.25 Рок-урок.
16.50 Свет сёння.
17.00 Чалавек і закон.
17.25, 20.30 Надвор'е.
17.30 Хакей. "Спартак" (Масква) — "Зоркі Расіі". У перапынках — Бамонд; Добрай ночы, малышы!
20.40 Поле цудаў.
21.30 Чалавек тыдня.
21.50 "Вуліцы Сан-Францыска".
23.00 Палітбюро.
23.40 Музагляд.
0.20 Прэс-экспрэс.

### Канал "Расія"

6.30 Формула-730.
7.00, 11.00, 15.00, 19.00, 22.00 Весткі.
7.20 Патрабуюцца...
7.30 Час дзелавых людзей.
8.00 Сусветныя навіны Эй-бі-сі.
8.25 Паехалі.
8.35 Ранішні канцэрт.
8.55 Газетныя гісторыі.
9.45 "Санта-Барбара".
10.35 Тэлегазета.
10.40 Сялянскае пытанне.
15.20 Студыя "Рост". "Прызма".
15.50 Там-там навіны.
16.05 Свята кожны дзень.
16.15 Новая лінія.
16.55 Дысней па пятніцах. "Гектар — безбілетны пасажыр".
17.55 Кіно ў лістападзе.
18.10 Чый бок?
19.25 Падрабязнасці.
19.35 "Санта-Барбара".
20.30 "Сядзі... глядзі..." Забаўляльная праграма.
21.05 "К-2" прадстаўляе: "Ню".
22.20 Аўтаімгненне.
22.25 Спартыўная карусель.
22.30 "Прорва". Маст. фільм.
0.25 Зоркі гавораць.

### Санкт-Пецярбург

12.00, 14.30, 18.30, 21.30 Інформ ТБ.
12.10 Чароўная лінія.
12.25 "Нямецкая хваля".
12.55, 13.30, 16.35, 19.25 Музычны момант.
13.00 Хуткая дапамога.
13.35 Мультфільмы з серыі КААДП.
13.55 Гучаць старадаўнія казацкія песні.
14.40 "Камедыя аб Лісістраце". Маст. фільм.
16.20 Па ўсёй Расіі.
16.40 "Бюро знаходак". Мультфільм.
17.15 Кідайка.
17.55 Храм.
18.50 Спорт, спорт, спорт...
19.10 Вялікі фестываль.
19.30 "Тайна вілы". Маст. фільм.
21.10 Тэлемагазін.
21.15 Тэлеслужба бяспекі.
21.45 Спартыўныя навіны.
22.00 Ваш стыль.
22.05 Анталогія зарубежнага кіно. "Вірус".

### 8-ы канал

18.00 Мультфільм ЗША "Дзік Трэйсі".
18.50 СОЛТЭК: "Дорэміфасолька".
19.00 Тэлесерыял "Марэна Клара".
20.00 Агенцтва "Парнікс": "Гарадскі гадзіннік", "Навіны".
20.15 Мультфільм ЗША "Дзік Трэйсі" (працяг).
20.40 Тэлесерыял "Шансы".
21.30 Студыя "БМ": "Дзевятае воблака".
21.45 Час мясцовы.
22.10 Маст. фільм "Залатая іголка".

## Субота, 5 лістапада

### Беларускае тэлебачанне

8.00 Раніца рэспублікі.
8.10 Дайджэст.
8.20 Аэробіка для ўсіх.
8.50 Пяць хвілін на жарты.
9.00 Эканамікст.
9.10 "Зорка чароўнага шчасця". Маст. фільм. 2-я серыя.
10.35 Здароўе.
11.05 Паказвае Віцебск.
12.05 Дак. фільм "Сонейка ў вачах".
12.25 "Асілак". Спартыўны клуб.
13.30 "Лулу — анёл кветак".
14.05 "Бімбат". У яблычак.
14.25 "Дарога". Асветніцкая праграма.
14.55 "Радавод" у Польшчы.
15.35 Майстэрня.
16.15 "Вера. Надзея. Любоў". Аб вечных ісцінах.
16.45 Хельсінкі сустракае кікбаксёраў. Частка 1-я.
17.15 "У Парыж". Тэлеэсэ.
17.35 Дзелавы веснік.
17.50 "Чарапашкі ніндзя".
18.15 "Падводныя лодкі — акулы са сталі".
18.50 "Нов і К"-топ-10.
19.50 Міжнародныя спартыўныя навіны.
20.20 Пяць хвілін на жарты.
20.30 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.40 "Зоркі" на экране. "Целаахоўнік". Маст. фільм.
23.15 Тэлефестываль "Етвызь". 2-я частка.
0.15 "Каскад".
0.35 Відзьма-нявідзьма.
1.35 Пад купалам Сусвету.

### Канал "Астанкіна"

6.30 Суботняя раніца дзелавога чалавека.
7.15 Спорт-шанц.
7.45 Слова пастыра. Мітрапаліт Кірыл.
8.00 Покліч джунгляў.
8.30 Тэлерадыёкампанія "Мір".
10.00 Ранішняя пошта.
10.30 Медыцына для цябе.
11.00 "Грузія — адна". Дак. фільм. Частка 1-я "Прэлюдыя".
12.40 Без паўзы.
12.50 Смак.
13.05 "Другое нараджэнне". Тэлефільм.
13.50, 22.50, 23.50 Навіны.
14.00 "Спасціжэнне дэмакратыі". Фільм 5-ы "Улада законнасці".
15.00 Міжнародны фестываль мастацтваў у г. Сочы.
15.25 Клуб землякоў.
16.20 "Жыццё заапаркаў".
17.00 Шчаслівы выпадак.
17.50 Да і пасля.
18.40 Тэлесерыял "Каманда ў капелюшах" (ЗША).
19.40 Добрай ночы, малышы!
20.00 Навіны плюс.
20.35, 23.00 Надвор'е.
20.45 Тэлесерыял "Гаспадар Балантрэ". 1-я серыя.
21.40 Смехапанарама.
22.20 Тэлефестываль "Ступень да Парнаса".

### Канал "Расія"

7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Весткі.
7.25 "Музычны клас".
8.00 Пілігрым.
8.45 Тэлеэрудыт.
8.50 Парламенцкі тыдзень.
9.35 Музыка ўсіх пакаленняў.
10.05 Як жыць будзем?
10.50 "Сёстры". Маст. фільм.
12.40 Сялянскае пытанне.
13.20 Дэ факто.
13.35 "Эдэра". Маст. фільм. 9-я серыя.
14.35 Кінавока. "Васковыя персоны".
15.35 Відэапаэзія. К. Кедраў.
15.50 Футбол без граніц.
16.35 Свята кожны дзень.
16.45 Мультфільм "Дон Кіхот" (ЗША).
17.45 Тэлеэрудыт.
17.50 "Бяссоніца". А. Разенбаўм.
19.25 "Да апошняга чалавека". Маст. фільм з серыяла "Пах пораху".
21.05 Зусім сакрэтна.
22.20 Аўтаімгненне.
22.25 Спартыўная карусель.
22.30 Праграма "А".
23.30 Зоркі гавораць.
23.35 "Мянялы". Маст. фільм.

### Санкт-Пецярбург

8.55 "Гадзіна Фрэйзера". Рэлігійная праграма.
9.30 "За адну тройку". Маст. фільм для дзяцей.
10.35 "Васковыя персоны". Тэлефільм.
11.35 Музыка на заказ.
12.05 "Бабулін урок". Мультфільм.
12.15 Чароўная лінія.
12.30 "А слон умее гаварыць?" Фільм-канцэрт.
13.00 Хуткая дапамога.
13.30 "Пачатак". Маст. фільм.
15.05 "У горад прыехаў клоун". Канцэртная праграма.
15.20 "Шчасце Нурлана". Мультфільм.
15.30 "Марыяна першая". Мультфільм.
16.00 Аб'ектыў. "Канал імя Сталіна", "Спірытычны сеанс".
16.55 Студыя "Уяві".
17.05 Цыркавая праграма.
17.25 "Сінюшчын калодзеж". Мультфільм.
17.40, 21.15 Уік-энд з дэтэктывам.
18.10 Экспрэс-кіно.
18.30, 21.30 Інформ ТБ.
18.55 К. Паустоўскі. "Ручаі, дзе плёскаецца фарэль".
19.10 Вялікі фестываль.
19.30 "Страсці". Маст. фільм.
21.05 "Зімнія сны". Прэм'ера "Лентэлефільма".
21.45 Ваш стыль.
21.55 "Не хочаш — не глядзі": "Наўздагад", "Хлапушка", "О-ля-ля", "Без назвы".
23.05 "Парыж. Раман аб горадзе". Тэлефільм.

### 8-ы канал

15.00 Мультфільмы.
15.30 Прапаведнік Кенет Коупленд.
16.00 Тэлесерыял "Марэна Клара" (паўтор).
17.45 Мультфільм.
18.00 СОЛТЭК: "Спартыўная мазаіка".
18.30 Музычная праграма з удзелам Кліфа Рычарда.
19.35 Маст. фільм "Індзіяна Джонс".
21.30 Студыя "БМ".
21.50 Сем хвілін з "Хрыстафорам".
22.05 Маст. фільм "Куджо".

## Нядзеля, 6 лістапада

### Беларускае тэлебачанне

8.00 Добрая раніца.
8.10 Аэробіка для ўсіх.
8.40 Пяць хвілін на жарты.
8.50 Слова да чалавека.
9.20 Справы вайсковыя.
10.05 Беларускі тур. Падарожжы, сустрэчы, адпачынак.
10.25 Мультклуб.
10.55 Вас выклікае "Спартландыя".
12.10 Англійскую мову вучым самі. "АВС-клуб" у Амерыцы".
12.30 "MTV. Лепшыя хіты".
13.00 Хельсінкі сустракае кікбаксёраў. Частка 2-я.
13.30 "Голуб чыстага сумлення". Да 70-годдзя паэта Артура Вольскага.
14.00 Метамарфозы "Ундзіны". Музычная навела.
14.30 "Сталіца". Тэлечасопіс.
15.00 "Фантазіі на тэмы Фабержэ". Кінанарыс.
15.10 "Вяскоўцы". Памежжа Літвы і Беларусі. Перадача з Гродна.
15.45 Успамін пра былыя "Вячоркі".
16.40 "Праспект".
17.10 Тэлекрама.
17.20 "Кампазітары Беларусі". Э.Казачкоў. Вакальны цыкл на вершы С.Ясеніна.
17.45 "Чарапашкі ніндзя".
18.10 "Гінес-шоу".
18.40 "Далоў камерцыю на любоўным фронце!" Кінакамедыя.
20.00 Панарама.
20.40 Калыханка.
21.00 Пяць хвілін на жарты.
21.10 Камп'ютэрны палігон.
21.30 Пад купалам Сусвету.
21.45 "Сінема" прадстаўляе: кінематограф Францыі.
21.50 "Нашы гісторыі". Маст. фільм.
23.40 Футбол. КІМ (Віцебск) — "Дынама" (Мінск).

### Канал "Астанкіна"

7.15 Алімпійская раніца.
7.50 Спортлато.
8.00 Марафон-15.
8.30 Раным-рана.
9.00 Палігон.
9.30 Пакуль усе дома.
10.00 Ранішняя зорка.
10.50 "Грузія — адна". Частка 2-я "Спакушэнне".
11.55 Аўта-шоу.
12.10 "Шпаргалка" з падарункам.
12.25 Вагон 03.
12.55 Жывое дрэва рамёстваў.
13.00 "Падводная адысея каманды Кусто".
13.50, 17.10, 22.50, 23.50 Навіны.
14.00 "Стратэгія Перамогі". Фільм 6-ы "Бітва за Днепр".
14.55 Тэлескоп.
15.25 Акно ў Еўропу.
15.55 "Баскетбольная ліхаманка", "Сапраўдныя паляўнічыя на прывіды".
16.50 Тэлелоцыя.
17.15 З днём нараджэння "Маяк"! Вечар, прысвечаны 30-годдзю радыёстанцыі.
18.40 Надвор'е.
18.50 Ален Дэлон у фільме "Зора" (Францыя).
21.00 Нядзеля.
21.50 Спартыўны ўік-энд.
22.05 Кантата С. Пракоф'ева "Аляксандр Неўскі".
23.05 Футбол. "Лакаматыў" (Масква) — "Спартак" (Масква).

### Канал "Расія"

7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Весткі.
7.25 "Павел Корын. Русь адыходзячая".
7.45 Фестываль "Залатая восень Славуціча". 1-я частка.
8.15 Наш сад.
8.45 Кіпрас Мажэйка. Рэпартажы з "Малой Еўропы".
9.15 Добрай раніцы. "Снеданне для чэмпіёнаў".
9.45 Аты-баты...
10.15 Рускае лато.
11.00 Кінатэатр паўторнага фільма. "Васемнаццаты год".
12.50 Кліп-антракт. В. Цыганова.
13.20 "Не высечы..."
13.35 "Эдэра". 10-я серыя.
14.30 Каробка перадач.
14.45 Рускі балет С. Дзягілева.
15.50 Свята кожны дзень.
16.00 Белая варона.
16.45 Кліп-антракт. А. Укупнік.
17.00 "Гуфі і яго каманда", "Чорны плашч".
17.55 Шарман-шоу.
19.25 "На сямі вятрах". Маст. фільм.
21.30 "Гарадок". Забаўляльная праграма.
22.20 Аўтаімгненне.
22.25 Спартыўная карусель.
22.30 Чэмпіянат свету па аўтагонках у класе "Формула-1".
0.40 Зоркі гавораць.

### Санкт-Пецярбург

8.55 "Гаючае слова". Праграма-набажэнства.
9.30 "Клемянціна". Мультфільм.
10.00 Экспрэс-кіно.
10.15 "Хохлаўка". Тэлефільм.
10.30 Сустрэча з Машай Распуцінай.
11.00 Нядзельны лабірынт.
12.30 "Макар-следапыт". Маст. фільм для дзяцей. 1-я серыя.
13.35 "Травіята". Опера Дж. Вердзі ў пастаноўцы Марыінскага тэатра.
15.30 Чэмпіянат Італіі па футболу.
17.25 Этнасы Зямлі.
17.55 Залаты ключ.
18.10 Зебра.
18.55 Музычная праграма.
19.30 Інформ ТБ.
19.55 "Нябёсы запаветныя". Маст. фільм.
22.05 Ваш стыль.
22.10 Паглядзім.
22.25 Адам і Ева +.
22.55 Футбол. "Зеніт" — "Зара" (Ленінск-Кузнецк).
23.40 "Сустрэчы". Маст. фільм.

### 8-ы канал

15.00 "Забытае кіно?.." Маст. фільм "Анжэліка — маркіза ангелаў".
16.40 "Сёння з Марлен Хікі" (Хрысціянская місія).
17.10 СОЛТЭК: "ПІК".
17.40 Мультфільм.
17.50 Тэлесерыял "Марэна Клара" (паўтор).
20.25 Спорт-сакрэт.
20.50 Бон ваяж.
21.00 Студыя "БМ": "Дайджэст".
21.20 Мастацкі фільм.
22.30 Foxy music.

ЗАМЕСТ КРОПКІ

# БЕЛАРУСЬ ЗА МЕЖАМІ РБ

## НЕ ВЫБІРАЮЦЬ АЙЧЫНУ...



Сёлета ў сакавіку зноў была я ў Беластоку — на свяце беларускай песні.

Паўнютка людзей, усюды нашы бел-чырвона-белыя сцягі і "Пагоня", моладзь у нацыянальных строях, атмасфера прыўзнёслая і святочная. "Насупраць перашкод і цяжкасцей мы стараемся даказаць, што беларуская культура і песня жыла і будзе жыць на Беласточчыне" — пасля гэтых слоў старшыні Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы Яна Сычэўскага — апладысменты, выгукі "Жыве Беларусь!.." Банальна казаць, што ў імжысты сакавіцкі вечар было на душы прасветлена — і журботна.

Беларускаму Слову чамусьці ўсюды цяжка, але найцяжэй — на Радзіме.

У мае школьныя, а пазней студэнцкія гады радасна і як бы напаўлегальна ўваходзіла беластоцкая "Ніва", і тое, што там казалася пра беларускую культуру і яе будучае, здавалася надзвычай смелым, прымушала думаць, што ёсць Мастак і Свабода. Там друкаваліся творы Сакрата Яновіча, Яна Чыквіна, Віктара Шведа, Мікалая Гайдука — і першы раз прыехаўшы на Беласточчыну, я знаёмілася з імі як з блізкімі людзьмі.

Гэта яны слова наша роднае на адвечнай беларускай зямлі — трымалі, як пужлівую трапяткую птушку, якой трэба хаця кавалачак вольнага неба. Гэта яны не давалі юным душам забыцца на тое, хто і што было тут спрадвечна...

І моладзь, як толькі саслізнулі з усіх путы таталітарызму, радасна ўзялася ствараць далей. І чаму яна тут такая — баявітая, па-харошаму зацятая ў сваім жаданні даказаць: "Жыве Беларусь!"? Чаму ў нас так не хапае гэтай баявой напорыстасці? Можа, там уздзейнічае менталітэт палякаў, якія не паддаваліся ні на якія заігрыванні расійскіх манархаў і ўпарта рваліся на свабоду, за сваю Польшчу галовы гатовыя былі скласці?




А хто мы, беларускія пісьменнікі, у вачах сваёй моладзі? Хто мы, якія маўчым, і атрымаўшы свабоду? Палахліва чакаем, што нехта іншы за нас зробіць адвечную справу інтэлігенцыі "Зваць з путаў на свабоду, зваць з цемры да святла"? Святла ж пакуль мала, яго ўсё меней, і цені, што кладуцца на нашу будучыню, нібыта даўжэюць і даўжэюць...







... Прыйшло запрашэнне з Беластока, і зноў збіраюся ў дарогу. Пагледзець беларускую царкву і ліцэй у Гайнаўцы, прайсціся па зацішных вулачках горада, дзе жыве беларускасць. Крочыць каля старога палаца і паўтараць словы Сакрата Яновіча: "Сніцца начамі роднае поле. І прыгумень зялёны, вясенні, дзе падпасваў я Красулюперадойку... Дзічка на ўзмежку маніць пладамі, і ветрык у лісцях яе весяліцца; на ёй ірваў я грушы, на гнілкі... Маліннік сапрэлы затхнуўся ў спёцы, ды горбіцца ў годы старыя; у ім любіў я гуляць у хованкі... Рэчка, што за лугам, цурчыць між каменняў. І агаліла яна плыцізны залацістыя, на якіх лавіў я калюшак.

З гнязда буслінага кола тырчыць на гумне. І дашчэнту рассохлася кола. Няма буслоў, няма іх, няма...

Няўжо можна сабе выбраць Айчыну?"

**Вольга ІПАТАВА**

*На здымках:*

1,2. Праваслаўны сабор Святой Тройцы ў Гайнаўцы (вонкавы выгляд і інтэр'ер).

3. Мемарыяльная шыльда, прысвечаная педагогу Беларускага ліцэя ў Бельску-Падляшскім Яраславу Кастыцэвічу.

4. Беларускаму ліцэю — 50 год.

5. Былыя выхаванцы ліцэя.

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛІНФАРМ**

КУЛЬТУРА

**ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА выдаецца з кастрычніка 1991года**

Заснавальнік — **Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар — **Вольга ІПАТАВА**

Нам.галоўнага рэдактара — **Людміла КРУШЫНСКАЯ**

**Рэдкалегія:**
**А. ВАНІЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГІЛЕП, Н. ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ, А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ, В. СКВАРЦОЎ, К. ТАРАСАЎ, А. ТРУСАЎ, В. ТУРАЎ, В. ШАРАНГОВІЧ**

Адказны сакратар — **Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**
Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**
Набор і вёрстка кампутарнага цэнтра газеты "Культура"

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: **76-94-66**

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.
©

Фармат А3.

Індэкс 63875
Агульны наклад 6000
Замова 28
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**

**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**